№ 4—7. 1928 г.

# БЮЛЕТЭНЬ

ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА
ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

SOCIÉTÉ DE LA CROIX ROUGE
DE LA RUTHENIE BLANCHE
BULLETIN DE LA COMITÉ CENTRAL

МЕНСК MINSK

# ЗЬМЕСТ.

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 4—7—1928

# БЮЛЕТЭНЬ

—( № 4—7 )—

Жнівень—Кастрычнік
1928 г.



ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1928

# Савецкай Беларусі патрэбны санітарны самалёт

Асноўным заданьнем Чырвонага Крыжу ў вайсковы час зьяўляецца мэдычная дапамога раненым і хворым. Зусім зразумела, што гэтая дапамога толькі тады будзе добрай, калі доктар зможа яе падаць сваячасова. Які сэнс у перавязцы раненага, калі вы яго ня можаце перанесьці найдалей ад поля бітвы, і перадаць у рукі належных спэцыялістых? Зразумела, што за такую дапамогу хворы ня будзе вам удзячны. Наадварот, вы раздражніце яго, створыце толькі надворны паказальны бок працы і больш нічога. Вось чаму пытаньне аб транспарту, аб перавозцы раненых у шпіталі ў той момант, калі ўзгарыцца вайна, набывае найважнейшае значэньне.

У нашых умовах пытаньне аб транспарту цалкам упіраецца ў шляхі. Нам добра вядома, якую цяжкую спадчыну ў гэтай галіне мы атрымалі ад царскага ўраду. Ён зусім ня быў зацікаўлены, каб насельніцтва мела лепшыя адносіны паміж сабой, бо гэта рабіла вялікую пагрозу распаўсюджаньня рэволюцыйнай „заразы“ і наогул падымала культуру краіны. Ня дарма ў царскіх генэралаў адсутнасьць шляхоў уваходзіла ў стратэгічны плян і, па іх думцы, садзейнічала лепшай абароне дзяржавы.

Ня так глядзіць Савецкая ўлада. Наш Урад лічыць, што чым лепшыя шляхі зносін, тым хутчэй прасякне сацыялізм у глухія куткі нашай Рэспублікі, тым хутчэй працоўныя змогуць скінуць з сябе ланцугі цемнаты,—гэтае найцяжэйшае спадчыны мінулага.

Але-ж, зразумела, будаўніцтва шляхоў справа нялёгкая. Яшчэ міне шмат гадоў, пакуль мы здолеем укрыць краіну саветаў густой сеткай прыгожых шасэйных дарог.

Нам яшчэ прыдзецца доўгі час на сваіх плячох выносіць весь цяжар бездарожжа і прыстасоўвацца да таго, што мы пакуль што маем. Дзеля гэтага, пытаньне аб выбары транспарту ў нас набывае асаблівую вастрыню. Калі-б шляхі былі ў добрым становішчы, пытаньне вырашалася-б вельмі проста:—купі аўтамабіль і скончана справа. Але ў нашых умовах, пры ўсіх добрых якасьцях аўтамабілю, апошнім многа ня зробіш. Тут на сцэну выходзіць іншы від транспорту—*санітарны самалёт*. Пры дапамозе яго ўсяго лягчэй разьвярнуць падачу хуткай мэдычнай дапамогі працоўнаму тады, калі іншым спосабам вы зусім бясьсільны што-небудзь зрабіць. У замежных краінах—

у Францыі, у Англіі даўно ўжо скарысталі авіацыю дзеля санітарнай мэты і калёніяльных войнаў. Там гэта амаль адзіны спосаб зносін, каб прадзерціся праз зарасьлі тропікавых лясоў, пякучыя пустыні, альбо непралазныя балоты.

Савецкая ўлада ня думае весьці вайны. Яе заданьне—мірнае будаўніцтва, на сацыялістычных падставах, народнае гаспадаркі. Але працоўныя павінны памятаць, што вораг ня дрэміць і трэба быць гатовым, каб у рашучы момант стаць на абарону заваёў рэвалюцыі.

Вось чаму Цэнтральны Камітэт Бел. Чырвонага Крыжу пачаў шырокую кампанію за збор сродкаў на санітарны самалёт. Трэба ўсімі сіламі падтрымаць гэтае вельмі каштоўнае і неабходнае прадпрыемства.

Наша грашовая дапамога цяпер—прыдасца пасьля, калі своечасова паданая дапамога выратуе не адно жыцьцё байцоў Чырвонае арміі.

Неабходна самая шырокая сяброўская дапамога гэтаму пачынаньню, бо гэтым самым мы замацоўваем наш санітарны тыл і даем чырвонаармейцам поўную ўпэўненасьць, што яны атрымаюць належную мэдычную дапамогу ў любым месцы, дзе-б іх не спаткала варожая куля.

Санітарны самалёт Чырвонага Крыжу заўсёды будзе на варце і на першы заклік байца Чырвонае арміі прыляціць яму на дапамогу.

**М. Барсукоў.**



Гурток Першай Дапамогі ў мяст. Багушэўскае, Віцебскае акругі.

# Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу пасьля 2-га зьезду

2-гі Ўсебеларускі Зьезд Чырвонага Крыжу зьявіўся сапраўдным экзаменам Таварыства. Ён паказаў наколькі справа санітарнай абароны Савецкае Беларусі пасунулася наперад, як вырасла Таварыства колькасна і якасна, наколькі яно ахапіла нашы працоўныя масы.

У гэтым нарысе мы хочам даць аналіз становішча Таварыства, як яно выявілася з параўнаўчых лічбаў яго сяброў за мінулы і бягучы год. З гэтых лічбаў даволі яскрава відаць, якія зьмены адбыліся ў сяброўскім складзе Беларускага Чырвонага Крыжу і якія посьпехі зрабіла тая ці іншая акруга ў сваёй працы.

Перш за ўсё можна заўважыць надзвычайна шпаркі рост Таварыства за апошняе паўгодзьдзе. У той час, як на 1 кастрычніка 1927 г. лік сяброў Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу быў роўны 17.075 чал., на 1 мая ён падняўся да 35.020 чал. Рост, як бачым, вельмі буйны,—больш за 100 проц.

Па асобных акругах гэты рост выразіўся ў наступных лічбах:

| Акругі | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| Менская . . . . | 4.075 | 5.906 |
| Магілеўская . . . | 3.018 | 5.241 |
| Бабруйская . . . | 3.018 | 5.050 |
| Аршанская . . . | 2.208 | 3.030 |
| Гомельская . . . | 1.594 | 4.020 |
| Полацкая . . . . | 1.168 | 2.291 |
| Мазырская . . . | 1.071 | 2.193 |
| Віцебская . . . . | 943 | 6.816 |

З гэтых лічбаў відаць, якую працу па масавым прыдбаньн сяброўства правялі асобныя акруговыя Камітэты Чырвонага Крыжу. Наперадзе ўсіх у гэтым сэнсе стаіць *Віцебск*. У той час, як у 1927 годзе ён стаяў на апошнім месцы,—у 1928 годзе ён займае першае месца. Гэта сьведчыць аб тым, што Віцебская акруга прарабіла апошнім часам вялікую работу па прапагандзе ідэй Таварыства і ўцягненьні ў яго шэрагі новых мас работнікаў і сялян.

*Менск* больш-менш захаваў сваё выдатнае значэньне, першае месца ў 1927 г. і другое ў 1928 г. Ранейшае становішча захавалі таксама *Магілеў* і *Бабруйск*,—трэцяе і чацьвертае месца.

*Орша Полацк, Мазыр* і *Гомель* пасунуліся назад,—у бягучым годзе ім абавязкова трэба падцягнуцца.

Вельмі цікавы параўнаўчыя лічбы аб сацыяльным складзе Т-ва. Аб гэтым сьведчыць наступная табліца [1])

| | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| Рабочых . . . . . | 2527 | 4567 |
| Сялян . . . . . . | 3159 | 6302 |
| Служачых . . . . | 7012 | 8910 |
| Чырвонаармейцаў . . | 2388 | 3181 |
| Іншых . . . . . . | 1989 | 2705 |

З прыведзеных лічбаў відаць, што павялічэньне ліку сяброў Т-ва апошнім часам ідзе ў напрамку пераважна сялянскае масы (100 проц. павялічэньня) і рабочых (85,5 проц. павялічэньня). Па іншых графах павялічэньне было нармальнае: служачых—на 12,8 проц., чырвонаармейцаў—на 33,2 проц. і іншых на 36 проц. Аднак, калі прыняць пад увагу наогул устаноўку Беларускага Чырвонага Крыжу на прадпрыемствы і асабліва на вёску, дык павялічэньне ліку работнікаў і сялян будзе ня зусім здавальняючым. Як відана, сялянства ў Савецкай Беларусі складае звыш 80 проц. насельніцтва і калі яго ў складзе нашага Таварыства ёсьць толькі 6300 чал., знача яно ахопленае Чырвоным Крыжам яшчэ вельмі слаба. У гэтым напрамку акруговым і ваенным арганізацыям яшчэ шмат трэба працаваць.

Вельмі характэрныя лічбы атрымоўваюцца таксама пры параўнаньні ліку сяброў Т-ва па полу. На 1-е кастрычніка 1927 г. ўсяго ў Т-ве было 12.533 мужчыны і 4.542 жанчыны, што складае для першых 75 проц. і для другіх 25 проц. Іншымі словамі, у 1927 годзе лік сяброў Бел. Чырвонага Крыжу мужчын быў *у тры разы больш*, чым лік сяброў—жанчын.

[1]) Лічбы за 1928 г. ня зусім точныя, бо да гэтага моманту у ЦК не атрымана разьбіўка ліку сяброў па сац. складу і нац. складу ад Аршанскай акругі і ад Дарожнага К-ту Зах. Чыгунак. Апрача таго, ня прымаюцца пад увагу лічбы вучняў і саматужнікаў, параўнаўча, праўда, нязначныя.

У працягу шасьці м-цаў песьля гэтага, г. зн. к 1-му мая 1928 г. фізыаномія Т-ва значна зьмянілася. У той час, як лік мужчын павялічыўся мала, быў раўны агулам 18.000 чал., лік жанчын павялічыўся, дасягнуў 12.000 чал. (без памянутых вышэй камітэтаў).

Такім чынам у сучасны момант лік мужчын прыблізна ў паўтары разы больш за лік жанчын; а калі ня прыймаць пад увагу чырвонаармейскі склад, мужчынскі характар якога застаецца нязьменным, дык гэтая перавага будзе і таго менш.

Падобная зьмена ў складзе Т-ва зьявілася вынікам буйнага разьвіцьця апошнім часам. Гурткоў і Дружын Першай Дапамогі.



Гурток Першай Дапамогі Дарожнага Камітэту ў Гомелі пад час сьвята 1-га мая.

Гэтыя арганізаваныя кадры Чырвонага Крыжу складаюцца на 99 проц. з жанчын. Зьявіўшыся найлепшым спосабам Чырванакрыжнай прапаганды, Гурткі і Дружыны Першай Дапамогі і далі ў нашыя шэрагі гэтакі значны лік жаночага элемэнту. Вопыт апошняга часу і прыведзеныя лічбы з яскравасьцю сьведчаць, што калі справа будзе ісьці так-жа і на будучыню, дык хутка Беларускі Чырвоны Крыж будзе больш жаночай арганізацыяй, чым мужчынскай. Гэтую абставіну нельга ня вітаць, бо, як вядома, роля жанчыны ў санітарнай абароне заўсёды была і застанецца выключна вялікай.

Цікавыя лічбы складу сяброў Т-ва па нацыянальнасьці. За выключэньнем вышэй памянёнай Аршанскай акругі і Дарожнага К-ту, а таксама Бабруйскай акругі, якая чамусь-та не дала свайго нац. складу, у Бел. Чырвоным Крыжу лічыцца:

| | | |
|---|---|---|
| Беларусоў . . . | 11.901 | чал. |
| Расійцаў . . . . | 1.841 | „ |
| Яўрэяў . . . . . | 5.093 | „ |
| Палякаў . . . . | 461 | „ |
| Іншых . . . . . | 419 | „ |

Такім чынам, беларусы складаюць агулам 60 проц. усіх сяброў Т-ва, затым ідуць яўрэі—25 проц., расейцы—8 проц. Рэшту складаюць менш значныя нацменшасьці—палякі,—літвіны, латышы і інш.

**А. Цьвікевіч.**



Дружына Першай Дапамогі гор. Менску за працай пад час інсцэніроўкі хімічна-паветранага нападу.

# Чырвоны Крыж у барацьбе за палепшаньне быту

Лёзунг Камуністычнае Партыі аб культурнай рэвалюцыі павінен знайсьці пераламленьне ва ўсёй практычнай працы грамадзка-пралетарскіх арганізацый, у тым ліку і ў арганізацыях Чырвонага Крыжу.

Барацьба з алкагалізмам, барацьба за здаровае памяшканьне рабочага і здаровую хату селяніна, арганізацыя разумных забаў, пабудоўля грамадзкіх студняў, лазьняў у вёсцы—усё гэта павінна быць прынята пад увагу, вывучана арганізацыямі Чырвонага Крыжу і выканана на справе.

Возьмем такую аграмадную задачу, як барацьба з алкагалізмам,—перад якой грамадзкай арганізацыяй не павінна стаць гэтае пытаньне? Такой арганізацыі ў савецкай краіне быць ня можа. Гэта пытаньне павінна цікавіць усе грамадзкія арганізацыі, але, на вялікі жаль, па барацьбе з алкагалізмам яшчэ амаль што нічога ня зроблена, ня гледзячы на тое, што гэта адбіваецца на вытворчасьці, на бюджэце рабочага, на яго вольным часе, які ён мог-бы скарыстаць для культурнай забавы.

ЦК Чырвонага Крыжу арганізаваў „Камісію Быта“ з прадстаўнікамі ад розных установаў і арганізацый, якая намеціла ў плянавым парадку цэлы шэраг канкрэтных задач. Камісія павінна знайсьці сродкі на пабудоўлю лазьняў, будзіраваць грамадзкую ініцыятыву ў гэтай справе, прыцягваць увагу савецкіх і прафсаюзных арганізацый шляхам збору грашовых сродкаў і арганізацыяй удзелу працоўнага насельніцтва ў будаўніцтве.

Камісія павінна больш і мацней зьвязацца з грамадзкімі арганізацыямі, асабліва ў справе сканчэньня тых лазьняў, якія ўжо пачалі будавацца. А такіх ёсьць шмат. Іх пачалі будаваць на грошы, сабраныя ад самаабкладаньня і яны так і засталіся нясконченымі. У гэтай частцы працы Чырвоны Крыж разам з Наркамземам павінны актыўна падтрымаць Камітэты Сялянскай Узаемадапамогі. Трэба ўпарадкаваць водпуск лесу на пабудоўлю лазьняў, бо гэта заўсёды робіцца несваячасова. Арга-

нізацыі Чырвонага Крыжу павінны даць сваячасова заяўкі на лес і ўсе мерапрыемствы ўзгадняць з адпаведнымі органамі.

Неабходна адзіным фронтам усім культурным сілам гораду і вёскі весьці штодзенную прапаганду ў вёсцы па ўкараненьні ў дамовы быт гігіенічных навыкаў, асабліва ў сэнсе ўтрыманьня цела ў чыстаце як дарослымі, так і дзяцьмі. У мясцох, дзе ёсьць рэчкі з пескавымі берагамі, трэба агульнымі сіламі з іншымі арганізацыямі арганізоўваць пляжы, купальні, плавальныя станцыі, зьвязаўшы ўсю гэтую працу з органамі аховы здароўя на мясцох і ў першую чаргу з тубдыспансэрамі і з Саветамі Сацыяльнай Дапамогі.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на карыстаньне сонцам і вадой. Мы, на вялікі жаль, яшчэ вельмі слаба выкарыстоўваем сонца, а побач з гэтым імкненьне ў нас атрымаць лячэньне штучным сонцам (кварцовыя лямпы) вельмі вялікае. Мы забываем пры гэтым, што сонцам можна карыстацца ў масавым парадку, бяз усякай чаргі ў нашых лячэбных установах. Зразумела, што карыстаньне сонцам трэба абставіць пад наглядам дактароў і рацыянальна яго арганізоўваць.

Такой арганізацыі, як ЦСПС неабходна зацікавіцца пабудовай грамадзкае прысьніцы ў г. Менску. Чырвоны Крыж з ахвотаю дасьць некаторыя сродкі на гэтую мэту. Пабудова прысьні на прадпрыемствах, бязумоўна, патрэбна, асабліва на такіх, дзе па спэцыяльных умовах працы ў гэтым адчуваецца неабходнасьць (друкарні, прадпрыемствы па апрацоўцы мэталю, сьлясарна-кузьнечныя і інш.). Гэтую працу Чырвоны Крыж павінен узгадніць з органамі Наркампрацы і прафэсыйнымі арганізацыямі, — апошнія, бязумоўна, будуць садзейнічаць.

Актыўна трэба дапамагаць органам аховы здароўя і зямельным органам у распрацоўцы мерапрыемстваў па пляніраваньні вёсак і хат. Чырвоны Крыж павінен заўсёды дапамагаць селяніну ў утварэньні здаровай хаты, шляхам будаваньня падлог, асобных кухняў, будаваць замест аднаго вялікага пакою 2—3 меншых і ўстанаўліваць мінімум сьветавой паверхні. Абавязкова будаваць форткі, памыйныя ямы і інш.

Раённыя камітэты павінны прадугледзіць у сваіх плянах будаваньне паказальных хат, пры грашовай дапамозе Чырвонага Крыжу.

Санітарныя Дружыны, Гурткі Першай Дапамогі трэба больш уцягваць у абсьледваньне санітарнага становішча месц грамадзкага харчаваньня (сталовыя, чайныя) і дабівацца максымальнага палепшаньня гэтае справы. Гэта немагчыма выканаць без дапамогі НКАЗ, дзеля гэтага неабходна ўзгадніць гэтую справу з акруговымі інспэктурамі аховы здароўя.

Аднэй з існуючых мер барацьбы з алкагалізмам зьяўляецца арганізацыя гарбатняў у мясцох зграмаджэньня людзей (рынкі, кірмашы, прадпрыемствы і інш.), прычым ставіць іх трэба насупроць піўнушак. Гарбатні трэба арганізаваць так, каб папершае, яны былі таннымі, падругое, і самае галоўнае, каб гэтыя гарбатні былі добра абсталяваны з культурнага боку—газэтамі, кнігамі і інш. Да арганізацыі гэтакіх гарбатняў Чырвоны Крыж ужо прыняўся; пакуль што, як спроба, гэтая справа праведзена ў чатырох акругах. Іншыя арганізацыі таксама павінны будуць дапамагчы ў гэтай справе.

Трэба спэцыяльна распрацаваць пытаньне аб шырокім прыцягненьні грамадзкай увагі да задач Чырвонага Крыжу ў справе аздараўленьня быту насельніцтва; арганізоўваць з гэтай мэтай спэцыяльныя кампаніі—„Тыдзень чыстаты“, „Дзень Чырвонага Крыжу“ і г. д.

**М. Кандрашук.**



Завод газіраванай вады Магілеўскага акруговага Камітэту.

# Школа мэдычных сясьцёр

*(Заўвагі пры пачатку новага акад. году)*

Як ведама, Цэнтральны Камітэт Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу адчыніў у г. Менску з восені 1927 г. трохгадовую школу мэдычных сясьцёр. Першы год навучаньня ў школе ўжо прайшоў, і мы можам цяпер падлічыць вынікі працы і пазнаёміцца з пасьпяховасьцю яе заняткаў. Ці адпавядае яна свайму прызначэньню—даць добра кваліфікаваны сярэдні мэд. персанал у больніцы і на мэд. вучасткі?

Школа пасьпела заваяваць добрае імя. Яна ўключана ў агульную сетку студэнцкіх арганізацый Выканбюро студэнцкіх профсэкцый БССР. За слухачкамі школы прысвоена званьне „студэнткі“.

З пачатку 1927 г. ў школу было прынята разам з кандыдатамі 109 чалавек, але некаторыя пакінулі школу, калі ўбачылі кроў у анатамічцы, некаторым наогул паказалася цяжка вучыцца, у выніку чаго да экзаменаў прышло 96 чал.

Сацыяльны выгляд школы ў канцы году быў наступны.

| | | |
|---|---|---|
| Рабочых і дзяцей рабочых . . | 42 | |
| Сялянак . . . . . . . . . | 13 | (у тым ліку 6 чал. пэнсыянэраў, інвалідаў працы, грамадзкай вайны). |
| Служач. і дзяц. служач. . . . | 33 | |
| Дзяцей саматужнікаў і інш. . . | 8 | |
| | 96 | |

Акадэмічная пасьпяховасьць студэнтак здавальняючая. З 96 студэнтак—87 здалі поўны калёквіум і пераведзены на другі курс; не пераведзена—9 чалавек, якія ня здалі па 1—3 прадметам залікаў (у тым ліку і фізкультуру). За імі пакінута магчымасьць здаць іх цяпер і таксама перайсьці на 2-гі курс.

Матар'яльная забясьпечанасьць студэнтак школы наступная: Спачатку ЦК Т-ва даў 30 стыпэндый і Саюз Мэдсанпрацы—8, але потым Саюз спыніў выдачу стыпэндый, а ЦК, наадварот, павялічыў іх, і выдаваў 32 цэлых і 12 паловак стыпэндый (па 10 р.), а ўсяго на 44 чал. У інтэрнаце школы, які ўтрымліваў ЦК, пражывала 45 чал. (рэшта жыла на прыватных кватэрах, або пры сваіх сем'ях.

Трэба прызнаць, што забясьпечанасьць студэнтак стыпэндыямі была недастатковая. Было яшчэ шэраг таварышоў, якім трэба было дапамагчы. У зьвязку з гэтым, на канікулярны час для студэнтак былі арганізаваны работы,—студэнткі былі школаю падрыхтаваны для працы ў ясьлях, у якасьці загадчыц і сясьцёр па воспапрышчэпліваньні. Шмат студэнтак самі знайшлі працу.

Наогул у сэнсе працы, як пад час заняткаў, таксама і пасьля іх сканчэньня, студэнткі школы мэд. сясьцёр ЦК знаходзяцца ў лепшым становішчы ў параўнаньні са студэнткамі іншых навучальных устаноў. У сучасны момант адчуваецца значны недахоп сясьцёр і нашыя студэнткі забясьпечаны работай на ўсе 100 проц.

Цэнтральны Камітэт Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу пастанавіў зрабіць у бягучым годзе новы набор студэнтак на першы курс школы ў ліку 75 асоб.

Прыймо праводзілася выключна праз Акруговыя К-ты Т-ва, якія прадставілі ў Цэнтральную прыймовую камісію падвойную колькасьць кандыдатаў. З гэтага ліку і набраліся новыя кадры.

Дзякуючы гэтаму парадку пры камплектаваньні школы ЦК зьніклі тыя непаразуменьні з Акр. Камітэтамі, якія былі ў мінулым годзе.

Першае месца пры наборы, пры роўнасьці іншых варункаў (асьвета, сац. пахаджэньне і г. д.)—атрымлівалі актыўныя члены Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, у тым ліку скончыўшыя Гурток Першае Дапамогі. Гэтым самым актыву нашага Т-ва даецца пэрспэктыва і ён больш павінен зацікавіцца працай.

Умовы працы другога году навучаньня лепшыя, чым першага году. ЦК адчыняе новы інтэрнат на 50—60 чал.; усе, хто мае патрэбу, будзе задаволены інтэрнатам і ў ім ня будзе гэткай цеснаты, як было ў мінулым годзе. Забясьпечанасьць студэнтак стыпэндыямі таксама будзе пастаўлена ў гэтым годзе лепш, чым у мінулым. У мінулым годзе было дадзена спачатку 30 стыпэндый на 100 чал., а цяпер на 75 студэнтак—40 стыпэндый. Слухачкі будуць лепш забясьпечаны падручнікамі, дапаможнай літаратурай, абсталяваньнем і інш. З прычыны лепшага матар'яльнага становішча школы, студэнткі змогуць больш пасьпяхова вучыцца і больш удзельнічаць у грамадзкай працы, асабліва ў галіне вайскова-санітарнай. Са складу студэнтак патрэбна арганізаваць Санітарную Дружыну.

На падставе вопыту і дасягненьняў першага году навучаньня, наогул можна сказаць, што школа спраўляецца з пастаўленай ёй задачаю і адпавядае свайму прызначэньню. Але гэта накладвае на ЦК, на Акруговыя К-ты і на ўсю Чырвона-Крыж-

ную грамадзкасьць шэраг абавязкаў—перш за ўсе ў сэнсе падбору добрага складу студэнтак. У сваю чаргу студэнцкія арганізацыі павінны клапаціцца аб палепшаньні ўнутранага жыцьця і быту студэнтак, аб разьвіцьці грамадзкасьці і грамадзкай чырвонакрыжнай дзейнасьці сярод іх, з тым, каб студэнткі і пад час навучаньня і пасьля сканчэньня школы былі сапраўднымі агітатарамі і праваднікамі ідэй і задач Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу ў гушчу працоўных мас гораду і вёскі.

**І. Фрыдман.**



Аўтамобіль Першай Дапамогі пад час інсцэніроўкі паветрана-газавай атакі гор. Менску.

# Сацыяльная гігіена і буржуазная грамадзкасьць

*(Уражаньні ад Міжнароднага Кангрэсу па Сацыяльнай гігіене ў Парыжы)*

У першай палове ліпня ў Парыжы адбыўся Міжнародны Кангрэс па Сацыяльнай гігіене, скліканы па інцыятыве Лігі Чырвоных Крыжоў. На гэтым Кангрэсе былі прадстаўлены дзяржавы Эўропы, Амэрыкі і Азіі, у асобах сваіх вучоных, дактароў і нават манахаў і манахінь. Толькі Савецкая Дэлегацыя адзначалася сваім аднастайным рабочым складам і ня мела філянтрапічнага характару. Ад РСФСР былі т. Лебедзева,—заг. Аховы Мацярынства і Дзяцінства, Наркам. Аховы Здароўя, т. Самсонаў,—нам. Наркам. Сабезу, тав. Папоў,—заг. Кам. гаспадаркі Маскоўскага Савету і тав. Куляшоў—рабочы Сацстраху ў Ленінградзе. Украіна была прадстаўлена Старшынёй Цэнтральнага Камітэту Чырвонага Крыжу т. Буценко (ён-жа Старшыня Дэлегацыі і Віце-прэзыдэнт Кангрэсу), а таксама д-рам Халодным—членам Прэзыдыуму Украінскага Чырвонага Крыжу. Ад Беларусі быў я.

Цэлым шэрагам таварышоў, у тым ліку і мною, былі зроблены даклады і разданы дэлегатам Кангрэсу друкаваныя выданьні на францускай мове па пытаньнях аховы мацярынства, сацыяльнага забясьпечаньня і сацыяльнага страхаваньня. Усе даклады заслухоўваліся з вялізарнай увагай і нават сустракаліся аплёдысмэнтамі, хаця, праўда, некаторыя белыя рускія эмігранты пыталіся шыкаць і сьвістаць.

У часы перапынку прыходзілася назіраць, як нашы дэлегаты жвава гутарылі з удзельнікамі Кангрэсу, і як апошнія засыпалі нашых таварышоў пытаньнямі аб жыцьці Савецкага Саюзу. Быў надзвычайна цікавы момант, калі „сацыяліст“ Альберт Тома, паціскаючы руку тав. Куляшову, гаварыў: „рад бачыць сапраўднага рабочага прадстаўніка з Савецкай Расіі“.

Пры Кангрэсе была арганізавана вялізарная выстаўка па пытаньнях сацыяльнай гігіены, на якой не апошняе месца займаў Савецкі павільлён. На жаль, экспанатамі служылі, галоўным чынам, матар'ялы аховы мацярынства РСФСР. Другія

Рэспублікі былі прадстаўлены слаба. Такія пытаньні, як барацьба з сухотамі і вэнэрычнымі хваробамі, прастытуцыя і інш., ня мелі ніякага адбітку і зусім адсутнічалі.

Між тым я сам назіраў, як дэлегаты задавалі шматлікавыя пытаньні нашым таварышом з Савецкага павільёну аб становішчы жанчыны ў Савецкім Саюзе. Чужаземцаў вельмі цікавілі нашыя мэтады барацьбы з прастытуцыяй і пытаньні, зьвязаныя з праблемай сям'і і шлюбу.

Іншыя павільёны—Францыі, Англіі, Амэрыкі і др. былі цікавы тым, што навочна паказвалі ўсю розьніцу пабудовы сацыяльнай дапамогі ў нас і ў буржуазных краінах. У той



Акруговы Зьезд Чырвонага Крыжу Бабруйскай Акругі.

час, як у сваіх дакладах мы імкнуліся даць наяўнае прадстаўленьне аб ролі дзяржаўнае ўлады ў справе санітарнага аздараўленьня грамадзянства,—у нашых суседзяў яскрава прабівалася лінія дабрачыннасьці, прыхільнай дапамогі з боку багатых сьвету ў адносінах да абяздоленых і трапіўшых у нэндзу.

Гэты-ж малюнак праходзіў чырвонай ніткай ва ўсіх дакладах чужаземных прафэсароў, якія рабілі спробы пабудаваць гігіенічны дабрабыт на ўзаемнай згодзе між сабою рабочага і капіталістага. Па іх думцы выходзіла, што калі-б удалося зьмякчыць сэрца капіталістага, выхаваць у яго разуменьне сацыялгігіенічных нормаў, а рабочага санітарна асьвяціць,—тады ва

ўсім сьвеце згінуць страшэнныя сацыяльныя хваробы, і жыцьцё рабочага стане прыгожым ва ўсіх адносінах.

Зразумела, выстаўка паказала, што за мяжой шмат чаго дасягнулі ў санітарна-тэхнічных адносінах; узорна пастаўлены асобныя дзіцячыя ўстановы, але ўсё гэта носіць выпадковы характар і часта залежыць ад добрых адносін паасобных людзей; уся праца не зьяўляецца плянавай і не ахапляе шырокія масы працоўнага насельніцтва.

Нельга не спамянуць цікавай ацэнкі працы нашай дэлегацыі, зробленай Саветнікам Лігі Чырвоных Крыжоў *Рэнэ Зан*, які пры разьвітаньні са мной на прыйме ў генэральнага Сакратара Лігі *Кетрыджа*, сказаў: „Прашу вас перадаць ад імя Прэзыдыуму Кангрэсу шчырую падзяку Савецкай Дэлегацыі за яе працу на Кангрэсе. Усе нацыі, якія былі прадстаўлены на Кангрэсе, з жывым інтарэсам заслухалі даклады Савецкай Дэлегацыі і зьдзіўлены тымі посьпехамі, якіх удалося дасягнуць у Краіне Саветаў“.

Вельмі шкода, што першы Кангрэс па сацыяльнай гігіене адбыўся ня ў нас, а ў буржуазнай Эўропе. Трэба пажадаць, каб наступны Міжнародны Кангрэс сабраўся не ў Парыжы, а ў Маскве. Тут мы зможам паказаць буржуазнаму сьвету, як іншая грамадзкасьць—пралетарская, пры ўсіх сваіх недастатковых сродках, без датацыі капіталістых, на зусім новых, нябачаных раней падставах здолела пабудаваць сац.-гігіенічнае абслугоўваньне шырачэнных мас працоўных і сялян.

**М. Барсукоў.**

## Сводка мясцовага бюджэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу ў выкананьні за 1-ы квартал 1927-28 бюд. году (X-XII 27-28)

ПРЫБЫТКІ — ВЫДАТКІ

| Якое месца займае | Каштарыс. агульная сума | ВЫКАНАНА | | | %% адн. | | №№ п. п. | Назва акругі | Каштар. 1-й паловы | Выканана за 1 квартал | | | %% адн. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Свае атрыманьні | Датацыя | Усяго | Выкан. да каштарысу | Датацыя да выкан. сум | | | | Па каштарысу | Звыш каштар. | Усяго | Да каштарысу | Фактыч. на выкан. каштар. |
| I | 4484—23 | 910—07 | 1081—43 | 1991—50 | 44,5 | 54 | 1 | Менская | 3183—73 | 1224 | 576 | 1800 | 56 | 32 |
| II | 4246—17 | 4480—93 | — | 4480—93 | 105,5 | — | 2 | Віцебск. | 4120—93 | 4426—68 | 6—50 | 4433—18 | 108 | 107,9 |
| III | 3204—18 | 290—92 | 1055 | 1345—92 | 78,3 | 78,3 | 3 | Гомельск. | 2819—18 | 1340—59 | — | 1340—59 | 48 | 48 |
| VIII | 1423—98 | 71—24 | 750 | 821—24 | 58 | 90,3 | 4 | Полацкая | 1533—75 | 899—67 | — | 899—67 | 59 | 59 |
| V | 2480—06 | 334—35 | 1030 | 1364—35 | 55 | 75,5 | 5 | Бабруйск. | 2316—82 | 865—82 | — | 865—82 | 37 | 37 |
| VI | 1925 | 763—67 | 245—43 | 1009—10 | 52 | 24,4 | 6 | Магіл. | 2415—43 | 897—83 | 5 | 902—83 | 37 | 36,8 |
| VII | 1862—50 | 806—49 | — | 806—49 | 44 | — | 7 | Аршан. | 1740 | 546—79 | 86—65 | 633—44 | 37 | 32 |
| IV | 3200—50 | — | — | — | — | — | 8 | Мазыр. | 2404 | 1237—82 | 11 | 1248—82 | 51,6 | 51,5 |
| | 22826—62 | 7657—67 | 4161—86 | 11819—53 | 51,8 | 35,3 | | | 20533—84 | 11439—20 | 685—15 | 12124—35 | 59 | 55,7 |

УВАГА: Усе апошнія акруговыя К-ты падлічылі лічбы па працы акруговага гораду і нязначнай часткі раёнаў.

Загадчык Фінанс.-Адм. часткі ЦК *І. Асятроў.*

## Сводка мясцовага бюджэту Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу За II квартал (студзень—сакавік) 1927-28 б. году

ПРЫБЫТКІ — ВЫДАТКІ

| Якое месца займае | Каштарыс II кварт. | ВЫКАНАНА: Свае атрым. | ВЫКАНАНА: Датацыя | ВЫКАНАНА: Усяго | %% аднос.: Выкан да каштар. | %% аднос.: Дадацыя да выкан. сум | №№ п. п. | НАЗВА АКРУГІ | Каштарыс II паловы | Выканана за II квартал: Па каштарысу | Выканана за II квартал: Звыш каштарысу | Выканана за II квартал: Усяго | %% аднос.: Да каштарысу | %% аднос.: Фактычна выкананы каштарыс |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| II | 4484—23 | 1321—44 | 664—25 | 1985—69 | 44,3 | 33,5 | 1 | Менская . . | 3183 | 1749—02 | 66—55 | 1815 | 57 | 55 |
| I | 5327 | 2954—78 | 3075—96 | 6030—74 | 113,3 | 50,5 | 2 | Віцебская . | 4120—93 | 5740—18 | 13 | 5753—18 | 139,7 | 139,4 |
| III | 3204—91 | 2327—04 | 1189—94 | 3516—98 | 109,7 | 33,9 | 3 | Гомельск. . | 2694—18 | 1780—12 | — | 1780—12 | 66,1 | 66,1 |
| VIII | 1423—98 | 349—20 | — | 349—26 | 24,6 | — | 4 | Полацкая . | 1408—75 | 779—53 | 58—15 | 837—68 | 59,5 | 55,3 |
| V | 2480—06 | 533—04 | 300 | 833—04 | 33,6 | 36 | 5 | Бабруйск. . | 2191 | 796—94 | — | 796—94 | 36,4 | 36,4 |
| VI | 2405—86 | — | 376—86 | 1027—58 | 42,5 | 36,7 | 6 | Магілеўск. . | 2290—43 | 895—87 | 43—70 | 939—57 | 41 | 39 |
| IV | 2512—50 | 310—46 | 1000 | 1310—46 | 52,2 | 76,3 | 7 | Аршанск. . | 1615 | 725—65 | 178—10 | 903—75 | 55,8 | 44,8 |
| VII | 2403—94 | в е с т | к і н е | а т р ы | м а | н ы | 8 | Мазырск. . | 2388—94 | в е с т | к і н е | атрыма | н ы | — |
| IX | 1132—50 | 335—39 | — | 335—39 | 29,7 | — | 9 | Дарожн. к-т. Зах. чыгун. . | 675 | 255—18 | — | 255—18 | 38 | 38 |
| | 25374—98 | 8131—41 | 6607—01 | 15389—14 | 60,5 | 43,2 | | | 20567—23 | 12722—49 | 359—50 | 13081—42 | 63,7 | 61,9 |

Загадчык Фінан.-Адм. часткі ЦК *І. Асятроў.*

## Сводка мясцовага бюджэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу за III квартал (красавік—чэрвень) 1927-28 г.

ПРЫБЫТКІ | ВЫДАТКІ

| Каштар. на III кварт. | Выканана па III квартал: Свае сродкі | Выканана па III квартал: Датац. | Выканана па III квартал: Усяго | %% адносіны: Вык. да каштар. | %% адносіны: Дат. да вык. сум | Назва Акругавага Камітэту | Каштар. на III кварт. | Выканана на III квартал: Па каштар. | Выканана на III квартал: Звыш каштар. | Выканана на III квартал: Усяго | %% адносіны: Да каштар. | %% адносіны: Факт. выкан. каштар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4481—48 | 427—75 | 3182—80 | 3610—55 | 80,5 | 88,1 | Менск . . . | 5653—98 | 3474—11 | 45—18 | 3519—29 | 62,2 | 61,5 |
| 4645—43 | 2989—63 | 1644—61 | 4634—24 | 99,8 | 35,5 | Віцебск . . . | 4370—43 | 5056—86 | 39 | 5095—86 | 116,4 | 116 |
| 3224—18 | 1412 | 758—37 | 2170—37 | 67,3 | 35 | Гомель . . . | 3019—18 | 1331—90 | 110 | 1441—90 | 47,5 | 43,8 |
| 1535—48 | 278—62 | 500 | 778—62 | 50,7 | 65 | Полацак . . . | 1610—75 | 616—21 | 75 | 691—21 | 43 | 38,3 |
| 2479—32 | 382 | 600 | 982 | 39,7 | 61 | Бабруйск. . . | 3422 | 1016—12 | 18—29 | 1034—41 | 30,3 | 29,8 |
| 2865—48 | 2012—78 | 400 | 2412—78 | 84,1 | 16,6 | Магілеў . . . | 2852—93 | 1604—96 | 837—50 | 2442—46 | 85,6 | 29,4 |
| 2226 | 604—61 | 350 | 954—61 | 42,9 | 37 | Ворша . . . | 2526 | 1070—42 | 51—48 | 1121—90 | 44,5 | 42,5 |
| 2010 | 305 | 600 | 905 | 45 | 66 | Мазыр . . . | 2814—44 | 913—30 | 83—67 | 996—97 | 35,5 | 32,5 |
| 566—25 | 108—34 | 500 | 608—34 | 108 | 82 | Дарожны к-т Зах. чыгун. . . | 1165 | 412—50 | . | 412—50 | 35,2 | 35,2 |
| 24033—62 | 8520—73 | 8535—78 | 17056—51 | 71 | 50 | Усяго . . | 27434—71 | 15496—58 | 1260—12 | 16756—70 | 61,1 | 56,5 |

Загадчык Грашова-Адміністрацыйнай часткі ЦК *І. Асятроў.*

# З прамовы тав. Грынь на II зьезьдзе

„Я скажу, як праводзілася праца Чырвонага Крыжу ў нашай вёсцы. Сабраліся мы аднаго дня па ініцыятыве д-ра Галубчык пры мэдпункце і стварылі арганізацыю. Я першая запісалася ў Чырвоны Крыж і старалася прыцягнуць маіх суседак. Напр., заходжу я да суседкі і гавару: як добра, калі чыста ў хаце, тады і дзеці чыстыя, і яны самі стараюцца падтрымоўваць чыстату ў хаце; а яна ведае наконт чаго я гэта гавару і сароміцца. На другі дзень заходжу я да гэтай самай суседкі—у яе ўжо чыста ў хаце. І гэтак да другой, да трэцяй і г. д. Абралі бюро ячэйкі, санкамісія абгледзела студні, пастанавіла іх абгарадзіць і абсыпаць. Рашылі паклапаціцца аб ясьлях—гэтым летам ужо самі будуем ясьлі. Мы даведаліся, колькі дасьць каапэратыў, колькі можна аплаціць з сум самаабкладаньня, і вось цяпер мы ўжо маем сродкі, каб пачаць працу У нядзелю, як я зьвярнуся, склічам сход і пастановім адчыніць ясьлі.



Нашы актывісткі. Т. **Грынь**—сялянка-бядначка з Асіпавіцкага раёну, Бабруйскае акругі.

Тут нападалі на дактароў; няправільна, калі гавораць, што дактары нічога ня робяць. Мы самі чарнім працу дактароў. Яны працуюць добра—працуюць, часам не шкадуючы сябе. У нас, прыкладам, ёсьць доктарша Галубчык—ёй прызнацельны ўвесь народ; у нас пры мэдпункце яна арганізавала дзяжурствы па 3 сябры Чырвонага Крыжу, якія знаёміліся з хваробамі і як з імі бароцца. А як-жа бароцца, калі выдаецца толькі $1^1/_2$ капейкі на хворага на лякарствы? Ня дзіва, што дактарам і нам мяшаюць вясковыя ведзьмы. Няма насілак, няма ложак. Калі чалавек зламае нагу ў полі—што рабіць?“

„Я не магу не сказаць,—гаворыць т. Грынь,—як палепшылася жаночая доля, дзякуючы савецкай уладзе: да гэтага часу яна і права голасу ня мела, а цяпер яна ўсюды можа працаваць на карысьць народу“.

(З трыбуны яе праважаюць бурнымі аплёдысмэнтамі).

# Прывіўка воспы ў Копыльскім раёне

У чэрвені г. г. Акружкомам Чырвонага Крыжу былі накіраваны па Менскай акрузе тры чалавекі для правядзеньня восьпенай кампаніі. Аднаму з іх прышлося працаваць у Копыльскім раёне.

Пачалася праца з 15 чэрвеня; у працягу двох месяцаў у раёне было зроблена 2028 прывівак, апрача тых, якія зроблены амбуляторнымі працаўнікамі ў амбуляторыях. З 2028 чалавек першаразных—485 і другаразных—1543. Рэвакцынацыі зроблена для першаразных—2 і другаразных—17.



Нашы актывістыя **Б. Нэйман**, рабочы г. Бабруйску арганізатар чырвона-крыжных ячэек на дрэваапрацовачным заводзе і пры рабочых клюбах.

Зацікаўленасьць насельніцтва ў кампаніі вялікая; гэта відаць па тым, што часта пажылыя асобы прасілі прышчапляць ім воспу. Іх жаданьне выконвалася. У многіх вёсках, апрача дзяцей, уся моладзь пагалоўна прышчапляла сабе воспу. Рабілася гэта ахвотна, пасьля гутаркі, што такое воспа і чаму трэба рабіць прышчэпліваньне. Пры гутарках высьветлілася наступнае: большасьць грамадзян думае, што калі маладому адзін раз добра прышчапіць воспу і ад яе застануцца вядомыя значкі, дык другі раз ужо ня трэба шчапляць. Часта прыходзілася тлумачыць, што праз 7 гадоў прыблізна трэба рабіць другі раз прышчэпліваньне.

Гутаркі праводзіліся ня толькі па сан.-асьветных і профіляктычных пытаньнях, але і па агранамічных і прыродазнаўчых; апошнія ўзбудзіліся сярод сялянства сухім і халодным летам з частымі пярунамі і гураганамі, якія нарабілі ня мала шкоды сялянству.

Узьнікалі часта пытаньні, чаму не прыяжджаюць мэдпрацаўнікі з раёну, каб правесьці асьветную гутарку, а то калі

прыяжджае працаўнік райвыканкому, дык толькі каб правесьці грашовую справу.

Што датычыцца працы па арганізацыі ячэек Чырвонага Крыжу, дык вынікі яшчэ дрэнныя. Відаць, што мясцовыя ячэйкі, якія на паперы існуюць, амаль што ніякай працы не праводзяць. Пры запытаньнях у грамадзян аб Чырвоным Крыжу, некаторыя зусім ня чулі, што такі ёсьць, ды яшчэ і па магчымасьці дапамагае сялянству. Сказаць праўду, дык сялянства неахвотна адносіцца да тэй справы, дзе трэба заплаціць хоць марную капейку; а для таго, каб быць сябром Таварыства Чырвонага Крыжу патрэбны грошы, хоць і малыя. Трэба прыняць пад увагу, што хлебная замінка цяжка адбілася на беднай частцы сялянства, і гэта магло часова выклікаць нядбайнасьць у адносінах да карыснай арганізацыі, якой зьяўляецца сан.-асьветнае Т-ва Чырвонага Крыжу.

Прымаць пад увагу ўсе гэтыя адмоўныя моманты трэба, але трэба разам з тым, хоць малымі крокамі весьці працу сярод сялянства. Селянін—практык жыцьця, і калі ён убачыць карысьць і зразумее, што яму хочуць дапамагчы, дык ахвотна пойдзе за разумным кіраўніцтвам для палепшаньня свайго жыцьця.

25-VIII—28 г. **А. Вяржбіцкі.**

---

## Расьцем і мацнеем

*(В. Бурдзілаўка II, Каўкаўскі сельсавет, Менскай акругі)*

29 жніўня ў нашай вёсцы арганізавалася ячэйка Чырвонага Крыжу. За кароткі час мы бачым у ёй дасягненьні, што яскрава відаць з таго, што ўжо запісалася 20 членаў. У тым ліку сялян—17, служачых—2, сяброў саюзу—1; кандыдатаў КПБ—1, ЛКСМБ—1, беспартыйных—18; беларусаў—19 і яўрэяў—1. Сабралі членскіх узносаў—1 р. 18 к.

Выбралі мы бюро з 4 чалавек: сакратара, 2 члены і рэвізор. Выбралі таксама і рэдкалегію, і першага верасьня ў нас вышаў № 1 нашай сьцен.-газэты. Мяркуем набыць аптэчку з лякарствамі і чакаем доктара ад акруговага К-ту, бо доктар ад нас далёка—18 вёрст і насельніцтва вельмі хварэе. Але нямаведама, ці выйдзе нам гэтая дапамога. Як-бы там ні было, Чырвоны Крыж ужо зьявіўся ў нашай вёсцы, і мы ідзем да чарговых перамог.

**Бачыла.**

---

## Чырвоны Крыж у в. Вялуцічах

*(Барысаўскі раён, Менскай акругі)*

Ячэйка, а затым і Раённы Камітэт Чырвонага Крыжу заснаваліся ў нас у красавіку г. г. Усе прынялі ўдзел у яе арганізацыі: ячэйка КПБ, камсамол і мясцовы фэльчар Шырокапытаў. Разам з ім мы стварылі гурток Першае Дапамогі, у якім цяпер прыймае ўдзел 97 чал. Сябры гуртка—амаль выключна мясцовая моладзь, вучыцца вельмі ахвотна і сваёй ахвотай зацягвае ў працу Чырвонага Крыжу больш шырокія колы насельніцтва.

Раённы Камітэт Чырвонага Крыжу ўзьняў хадайніцтва аб збудаваньні ў нас 2 студняў і лазьні, што вельмі падтрымліваецца насельніцтвам.

З мая месяца наш мясцовы Камітэт ахапіў ужо сваёй дзейнасьцю 18 насельных пунктаў раёну.

Старшыня Камітэту **А. Грук.**

---

## Дапамажэце пазбавіць вёску ад хваробаў

Наша вёска Гразівец, Крапівенскага раёну—цёмная і бедная. Насельніцтва малапісьменнае, ад чаго шмат людзей гіне тут ад розных заразьлівых хваробаў, ня ведаючы, як ад гэтых хваробаў пазбавіцца і што рабіць, каб здаровым быць.

Дзеля гэтага я, селькор гэтай вёскі, Чарняўскі Ляксей, прашу Т-ва Чырвонага Крыжу выслаць на нашу вёску літаратуры і плякатаў.

Селькор **Чарняўскі.**

21-VIII—28 г.

**Ад рэдакцыі.** Патрэбная літаратура тав. Чарняўскаму паслана.

---

# За працай

*(Багушэўскі раён, Аршанччына)*

Апошняе паўгодзьдзе працы раённай арганізацыі Чырвонага Крыжу праходзіла пад лёзунгам умацаваньня і выяўленьня сапраўднага твару Чырвонага Крыжу. Пачатак паўгодзьдзя характарызаваўся значнай колькасьцю гэтак званых „мёртвых душ“, даходзіўшай да 60 проц. Ліквідацыя іх аднак ня толькі не ад-



II Акруговы зьезд Чырвонага Крыжу Меншчыны.

білася на становішчы арганізацыі, але аздаравіла яе, даўшы прыток сьвежых сіл. Арганізацыя вырасла на 260 новых сяброў.

Штурхачом да гэтага зьявілася ўтварэньне чатырох Гурткоў Першай Дапамогі, у якіх аб'ядналася 110 асоб.

Побач з практычна-навучальнай працай, сябры гэтых гурткоў практыкаваліся на перавязках у мясцовай амбуляторыі і больніцы, вучыліся карыстаньню супроцьгазамі і г. д.

У летніх манэўрах Асо-Авіяхіму Гурткі Першай Дапамогі прымалі чынны ўдзел.

Адным з відаў масавай папулярызацыі гурткоў зьявіўся ўдзел іх у дэманстрацыях у дні 10-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі, 1-га Мая і ў „Тыдзень Абароны“.

На вёсцы Гурткі Першай Дапамогі вельмі зацікавілі сялянак, якія прыходзілі на заняткі нават за 7 вёрст.

Замест ранейшай абмежаванай арганізацыі, ячэйка Чырвонага Крыжу ператвараецца ў орган прапаганды ідэй Чырвонага Крыжу па мястэчках і па вёсках. На вёсцы, сярод даπрызыўнікаў і ў самым райцэнтры праводзіліся даклады, зьвязаныя з дзейнасьцю Чырвонага Крыжу. У Нардоме адчынілі 1-га Мая куток Чырвонага Крыжу, дзе праводзіліся гутаркі з сялянствам на санітарна-асьветныя тэмы.

Праз узаемнае прадстаўніцтва, праз скарыстаньне жывых сіл Асо-Авіяхіму ў навучаньні ўладаць супроцьгазамі—дабіліся мы канкрэтнай сувязі з Асо-Авіяхімаўскімі арганізацыямі.

Як відаць, за кароткі тэрмін наша арганізацыя змагла дабіцца нечага рэальнага ў сваёй працы. Бязумоўна, ідзе ўсё не без недахопаў, не без адмоўных момантаў,—аднак агульны вывад такі, што арганізацыя варушыцца, пераходзячы ад „міжнародных“ фраз да жывой канкрэтнай справы.

С. Р.

---

## Як арганізавалася ў нас у Лошніцы ткацкая арцель „Беларуская Ткачыха“

Пры Лошніцкай ячэйцы Чырвонага Крыжу, у канцы 1927 г., арганізаваўся Гурток Першай Дапамогі. Заняткі Гуртка надта зацікавілі сялянскіх дзяўчат, якія рэгулярна наведвалі яго.

Заняткі Гуртка часта наведваў Старшыня Барысаўскага Камітэту Чырвонага Крыжу доктар Сабалеўскі. Апошні гутарыў з сялянскімі дзяўчатамі аб іх жыцьці, працы, аб пабочных заробках сялянскай дзяўчыны, адначасова надаючы думку і заводзячы гутарку аб арганізацыі ў Лошніцах ткацкай арцелі.

Сялянкі вельмі зацікавіліся гэтай думкай. Выявіўшы вялікую зацікаўленасьць, доктар Сабалеўскі шчыра і ўпарта ўзяўся за гэтую справу. Ім было пастаўлена аб гэтым пытаньне на Акруговым і Усебеларускім зьезьдзе Чырвонага Крыжу. ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу пастанавіў адпусьціць сродкі на арганізацыю ў в. Лошніца ткацкай арцелі. У скорасьці прыбылі ў Лошніцу доктар Сабалеўскі і прадстаўнік Бел. Саматужна-Прам. Саюзу т. Мадзалеўскі, якія і арганізавалі гэтую

арцель. Было выбрана Праўленьне. Цяпер Белсампрамсаюзам заказана для арцелі 6 ткацкіх станкоў. Праўленьнем нанята памяшканьне.

Разьвіцьцю працы арцелі тармазіць адсутнасьць сродкаў, але мы спадзяемся здабыць іх шляхам продажы сваіх вырабаў.

Працаваць арцель пачне ў кастрычніку м-цы 1928 г., калі будуць закончаны станкі і забясьпечана прадзіва.

Старшыня Лошніцкай ткацкай арцелі
„Беларуская Ткачыха" *Асіноўская*.

---

## Насьмешка ці цемната?

Два выпадкі прымусілі мяне напісаць гэтую заметку. Гэта недарэчныя насьмешкі над працоўнымі арганізацыямі Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу. Наглядалася такое зьявішча ў дзень 8-га сакавіка, а таксама і 1-га мая. Калі арганізацыі йшлі па вуліцах, дык некаторыя асобы дазвалялі сабе далёка недарэчныя эпітэты па адрасу праходзячых Чырвона-Крыжных Дружын. Ці павінна аб гэтым маўчаць? Мне здаецца, што не. З адношэньня паасобных людзей складаецца грамадзкая апінія, а калі гэта так, дык маўчаць нельга. Успомнім аб Чырвоным Крыжу дарэвалюцыйнага часу і зробім параўнаньне яго з арганізацыямі цяперашняга часу. Тады ў Чырвоным Крыжу прыстройваліся барынькі і людзі рангам вышэй, якіх нельга было сустрэць на вуліцы, ідучых пеша ў шарэнгах. А цяпер ужо другое: пралетарыят усьвядоміў, што моцна толькі тое, што ён трымае ў сваіх руках, а таксама і ў галаве.

Пачатковыя веды аб першай дапамозе, умела і ў час ужытыя, могуць зьявіцца ня менш карыснымі, чым дапамога спэцыялістага, а да гэтых пачатковых ведаў і імкнецца сьвядомая работніца і сялянка; Чырвоны-ж Крыж стараецца даць гэтыя веды. Значыць—разабраўшыся, зусім няма нічога заслугоўваючага насьмешкі, а, наадварот, трэба старацца больш набываць санітарных ведаў і навыкаў; яны дадуць карысьць ня толькі асабістую, але і грамадзкую.

Адзначаючы дні пралетарскіх і міжнародных сьвят, арганізацыі правяраюць сябе і сваю гатоўнасьць да працы. Тут ня можа быць прынцыпу і выбару,—усе роўны, і ўсе патрэбны. Ня трэба забываць, што блізкія і далёкія суседзі нашага Савецкага Саюзу ня спыняюць „фашызавацца", а гэта гаворыць нам шмат аб чым. Наш лёзунг павінен быць: „вайсковая і санітарная граматнасьць кожнага савецкага грамадзяніна і грамадзянкі",—бо з гатовымі ведамі, якія хто змог атрымаць, трэба будзе ўстаць на абарону. **А. Вяржбіцкі.**

## З ініцыятыўнай групы—магутная ячэйка

*(„Панчошная ф-ка імя 1-га Мая", Віцебск)*

З моманту арганізацыі ячэйкі Чырвонага Крыжу прайшло ўжо некалькі месяцаў. Яшчэ да яе арганізацыі існавала ініцыятыўная група, якая арганізавала Гурток Першай Дапамогі. Акруговы К-т Чырвонага Крыжу вылучыў кіраўніка—доктара, які рэгулярна праводзіў з ім заняткі.

Фабрыка імя 1-га Мая нядаўна адчынілася, клюбу ня было і недзе было праводзіць заняткі. Але гурток ні перад чым не застанаўліваўся, памяшканьне было знойдзена. Гурток азнаёміў работніц з першай мэдычнай дапамогай у няшчасных выпадках, шляхам тэарытычных і практычных заняткаў.



Гурток Першай Дапамогі пры саюзе Працасьветы (г. Віцебск).

Фабрыка мае ў цяперашні час атрад, які ў патрэбную хвіліну зможа ўчыніць першую дапамогу як на фабрыцы, гэтак і ў доме. Праводзяцца дзяжурствы па зьменах. Ёсьць бібліатэчка, вылучаны са складу бюро ячэйкі заг. бібліатэчкай, які выдае мэдычную літаратуру жадаючым работніцам на рукі, а ў бліжэйшым часе будзе адчынены санітарны куток, дзе будзе ўся літаратура і дзяжурствы.

Гурток скончыўшых прымаў удзел у дзень Чырвонае арміі, у манэўрах, у вулічным бою, праходзілі газаакурваньне.

Маецца крэпкі актыў, які зацікаўлены ва ўсёй працы ячэйкі. Ужо за кароткі тэрмін завербавана 70 членаў Т-ва; работа па вярбоўцы працягваецца. Вылучаны 2 сябры бюро ячэйкі, якія спэцыяльна гэтым заняліся. Праводзіцца кампанія па растлумачэньню значэньня Т-ва Чырвонага Крыжу.

Арганізаваны новы Гурток Першай Дапамогі з колькасьцю работніц—45 чалавек.

Асноўным недахопам у працы першага гуртка зьяўлялася адсутнасьць літаратуры, другі гурток недахопу гэтага не адчувае, бо ён літаратурай забясьпечаны.

Адзіным жаданьнем членаў гуртку—гэта, для паглыбленьня атрыманых першых мэдычных ведаў, прайсьці кароткатэрміновыя курсы з больш шырокай праграмай.

Работніца **Х. Саламонік.**

---

## Сярод балотаў...

Сярод балотаў, у адным з глухіх куткоў Магілеўшчыны, загубіўся мэдычна-амбуляторны пункт у в. Бахані і пры ім ячэйка Чырвонага Крыжу.

Цяжка там наладжвалася ў першы час работа с сангуртком. Новым гэта было для ўсіх; сьмяяліся мужчыны—„бабскі гурток“... Але гурток усё-ж ткі сфармаваўся, частка адсеялася.

І вось сёньня 10 чалавек прышлі на спробу; некаторыя баяцца, але веды высказваюць вельмі добрыя. Адчуваецца па адказах, што сялянкі вывучылі прынцыпы падачы першай дапамогі, што гэта ня цёмныя бабы, якія пакрываюць раны павуціньнем або курыным памётам; яны ўжо разьбіраюцца, адрозьніваць паняцьці—„зараза“, „стэрылізацыя“ і інш. З іх вышлі сьвядомыя памочніцы ў справе мэдычнай дапамогі насельніцтву. Прыходзіцца толькі дзівіцца, з якой спрытнасьцю яны накладваюць самыя складаныя перавязкі, як, прыкл., павязкі „Deso“, шапка „Гіпократа“ і інш.

Гэта новыя культурныя кадры на вёсцы. Яны будуць на месцы і падчас вайны і ў спакойны час.

Для шмат каго арганізаваць вёску зьяўляецца вельмі цяжкім. Але некаторыя ахвотна працуюць, як, напрыклад, наш лекпом т. Драбышэўскі, які фактычна стварыў памянёны гурток і ахвотна праводзіў з ім усе заняткі.

**Н. А. Э.**

---

## На працы ў вёсцы Скоўшчыны

(*Бабруйшчына*)

У Бабруйскай акрузе, у Старобінскім раёне былі адкрыты гэтым летам у трох вёсках яслі. У аднэй з гэтых вёсак—Скоўшчыны, прышлося працаваць мне.

Ясьлі былі адкрыты за кошт РВК, які адпусьціў на харчаваньне кожнага дзіцяці ў дзень 15 кап. Сяляне харчамі не дапамагалі, прынесьлі толькі пасьцель і рушнічок для свайго дзіцяці.

Разьлічаны былі ясьлі на 30 дзяцей, але вёска Скоўшчына вялікая; сялянкі добра зразумелі карысьць ад ясьляў і таму дзяцей заўсёды было звыш нормы. Першы час бывала 26—30 дзяцей, а ў апошні час 30—33.



Нашы актывістыя—тав. **Петрашэнка**, селянін Калінінскага раёну на Магілеўшчыне, арганізатар вясковых ячэек.

Зьмяшчаліся ясьлі ў школе. Спачатку працаваць было трудна, бо дзеці не маглі прызвычаіцца да тых мэтадаў выхаваньня, якія мы ўжывалі. Значную барацьбу прышлося, між іншым, правесьці за чыстату. Але пасьля ўсе дзеці прыходзілі акуратна самі і ведалі, як ім трэба сябе трымаць. Часта бывалі выпадкі, што ў нядзелю дзеці плакалі ў сябе па хатах і прасіліся ў яслі.

Калі прызвычаіліся да чыстасьці, дык і ў хаце ў сябе трымаліся чыста,—аб гэтым нам пераказвалі маткі.

Былі ў нас і іншыя труднасьці. Вёска Скоўшчына вельмі далёка знаходзіцца ад мястэчка і гор. Слуцка, так што з прадуктамі была замарока і каштавалі яны дорага. Аднак, у канцы канцоў і гэта наладзілі, і мясцовы каапэратыў дастаўляў нам усё патрэбнае.

Вёска Скоўшчына знаходзіцца далёка і ад РВК; адтуль прыяжджалі людзі рэдка, на месцы людзей няма, няма с/савета, няма больніцы, так што толькі наш ясьлевы пэрсанал будзіў сялян ад „векавечнага сну“. Канешне, зрабіць што-небудзь значнае пры гэтых варунках мы не маглі. Сяляне хоць і цікавяцца рознымі навінамі, але падыходзяць да ўсяго вельмі нерашуча.

Дзяцей у ясьлі прымалі па разбору мясцовай камісіі мацярынства, якая складалася з 3-х сялянак. Прыймалі толькі дзяцей беднякоў; з серадняцкіх дзяцей было толькі 3 дзяцей.

Агулам можна сказаць, што яські зрабілі на сялянак добрае ўражаньне, і яны прасілі нас пры ад'езьдзе, каб гэта справа ня была пакінута і на будучае лета.

Студэнтка **Рашкес.**

---

## На новым шляху

Ня надта вялікая наша Беларусь, але ня кожны ведае, дзе знаходзіцца вёска Лешня, Копыльскага раёну. Дык вось Т-ва Чырвонага Крыжу задумала арганізаваць яські ў гэтай вёсцы, дзе стары быт сядзіць яшчэ вельмі моцна.



II Акруговы Зьезд Чырвонага Крыжу на Мазыршчыне.

Добра будаваць што-небудзь, калі ёсьць шмат грошы, а ў мясцовай ячэйцы іх было зусім небагата. Таму трудна было спачатку,—ня было патрэбнага абсталяваньня. Дзяцей прыносяць, а спаць ім няма на чым, бо ложкі без дасок і без сяньнікоў. Дзеці ходзяць у яські нельга сказаць, каб з вялікай ахвотай. Але ні раённы Камітэт Чырвонага Крыжу, ні пэрсанал ясьляў ня трацяць настрою.

Дружна ўзяліся за працу. Прайшоў невялікі час, і ўжо арганізаваныя сялянкі прынесьлі дошкі, прынесьлі і сяньнікі. Дзеці пасьля абеду спакойна кладуцца спаць у чысьценькія ложачкі. Але ложак гэтых яшчэ не хапае ўсім.

Ня мала клопату было і з харчаваньнем. Здараецца, прынясе маці дзіцяці малака, а ў мяшочку хлеба, сыру або чаго іншага. Вось і спрабуйце дастаць з гэтага мяшка хлеба для агульнага стала. Падымаецца гоман і шум, дзеці крычаць: „гэта ня мой хлеб“ „мой хлеб у Янкі“ і г. д. Гвалту не абярэшся.

Тут таксама прыбеглі да самаарганізацыі сялянак, і цяпер кожная маці носіць хлеб па чарзе—булка хлеба і на прыдачу сьвежае малако.

У выніку добра пастаўленай справы—сялянкі ахвотна несьлі дзяцей, і за два з лішкам м-цы яські прапусьцілі 910 чал., прычым было выдаткавана намі 500 руб. Дапамога сялян, калі перавесьці яе на грошы, была параўнаўча нязначная—каля 50 руб.

Недахопам у працы зьявілася тое, што было праведзена мала сходаў з культурна-асьветнымі мэтамі. Трудна іх было склікаць у гэткім глухім куту, як вёска Лешня. На будучыну трэба будзе ў гэтай галіне больш падрыхтавацца.

**З. Беленькая.**

---

# Яські ў вёсцы Маторава

*(Сьмілавіцкі раён, Менскае акругі)*

Менскі Акруговы Камітэт Чырвонага Крыжу разам з шэфамі (парт. ячэйкай Чырвон. Крыжу і Мэд. Школы) арганізавалі ў сваёй падшэфнай вёсцы Маторава, Сьмілавіцкага раёну, дзіцячыя яські.

Праца ўжо скончылася, і можна падзяліцца тым вопытам, які ёсьць у яе выніку.

Яські былі разрахованы на 25 дзяцей. Усіх грошай на $2^{1}/_{2}$ м-цы было 600 руб. Да гэтых грошай сялянкі павінны былі дадаваць свой паёк, кожны дзень адно яйка і 2 шклянкі малака. Апрача таго, у тыдзень $^{1}/_{2}$ фунта масла або сала, 3 фунты мукі і 1 фунт крупы. З прычыны беднасьці пяцёра мацярок былі зводьнены ад гэтага пайка.

Падрыхтоўчая праца і першыя тыдні работы прынесьлі цэлы шэраг труднасьцяй. Выбраць 25 дзяцей з вёскі, якая мае поўвярсты даўжыні, вёскі пераважна серадняцка-бядняцкай, дзе ў кожнай хаце ёсьць дзеці, якія патрабуюць дапамогі—было ня лёгка. Былі розныя прапазыцыі, як зрабіць адбор. Была, між іншым, прапазыцыя зрабіць жэраб'ёўку, але гэтага вымагалі найбольш заможныя сяляне. З дапамогай камсамольскае ячэйкі

ўдалося адабраць дваццаць пяць дзяцей, найбольш адпавядаючых па сацыяльнаму становішчу.

Другія труднасьці—гэта одра (кор) на вёсцы. Яна цягнулася ўвесь час і моцна парашкаджала ў працы, не даючы магчымасьці дзецям наведваць ясьлі і тым парушаючы плянавасьць іх працы. Перашкаджала акуратнаму наведваньню дзяцей і халоднае дажджлівае лета.

Тым ня менш, сярэдняя наведваемасьць ясьляў была: у першы пэрыяд 18—25 дзяцей і ў апошні пэрыяд 23—25 дзяцей.



2-гі Акруговы Зьезд Чырвонага Крыжу на Полаччыне.

Адносіны мацярок увесь час былі вельмі добрыя,—яны адзываліся аб ясьлях прыхільна і давяралі ім. Часам пакідалі дзяцей пяцігадавалага ўзросту.

Перад закрыцьцем ясьляў быў склікаНы агульны справаздачны сход, на якім былі ўсе мацеры гадавалых дзяцей. Яны засьведчылі, што догляд за дзецьмі быў зусім здавальняючы, харчаваньне дзяцей таксама. Аб апошнім найбольш аб'ектыўна сьведчаць лічбы вагі дзяцей: яны прыбылі ў сярэднім ад $1^1/_2$ да $6^1/_2$ фунтаў. На сходзе вынесьлі прапанову, каб працягнуць ясьлі да 15 верасьня, калі будзе скончана ўся праца на полі (бульба ў гэты час яшчэ ня была выбрана). Сялянкі абяцалі пры гэтым і большую дапамогу ад сябе. Але за адсутнасьцю сродкаў прапанову гэтую выканаць было нельга.

Яські мелі агітацыйнае значэньне для Чырвонага Крыжу. Большасьць сялянак—мацярок гадавалых дзяцей уступілі ў Чырвовы Крыж. Адна маці зьявілася сябрам ячэйкі Чырвонага Крыжу.

Студэнткі мэдычнай школы, якія працавалі ў яськях, падайце вестку ў „Бюлетэнь", як у вас праходзіла работа! Трэба дзяліцца ўражаньнямі і вопытам на будучае лета.

Студэнтка мэд. школы **Файнберг.**




Гурток першай дапамогі пры фабр. „Спартак" (г. Шклоў, Магілеўскай акругі).

# Чырвоны Крыж у „Тыдзень Абароны"

## Бабруйск

„Тыдзень Абароны" ў нас паказаў значны ўдзел Чырвонага Крыжу. Наша Санітарная Дружына ўдзельнічала ў дэманстрацыі, прычым перад пачаткам дэманстрацыі ёй быў паднесены сьцяг. Дружына таксама прымала ўдзел у інсцэніроўцы, абслугоўваючы санітарныя пункты. На сходах па прадпрыемствах загадзя выдзеленым і падрыхтаваным актывам рабіліся даклады аб значэньні Чырвонага Крыжу ў справе санітарнай абароны краіны.

Па ўсіх раёнах, апрача Рагачэўскага, Гурткі Першай Дапамогі і сябры Чырвонага Крыжу прыймалі актыўны ўдзел, як у дэманстрацыі, так і ў кружковых зборах. Асабліва ўдала было ў Жлобіне і ў Глуску, дзе да „Тыдню Абароны" быў прыўрочаны ўрачысты выпуск Гуртка з паднясеньнем сьцягу.

**Істоміна.**

## Магілеў

„Тыдзень Абароны" прайшоў у нас даволі дружна. Былі праведзены Чырвоным Крыжам сходы як самастойна, так і супольна з Асоавіахімам. У дэманстрацыі па гораду прымала чынны ўдзел Санітарная Дружына, якую акурылі газам. Сандружына выступала таксама і ў паходзе ў лягеры.

Быў праведзены па гораду кружкавы збор, які даў 112 р. 89 к.

У манэўрах, якія адбыліся 8—9 жніўня, Чырвоны Крыж прымаў удзел 3 групамі.

1. Магілеўская група—3 доктары, 3 лекпомы і 58 санітарак Чырвонага Крыжу.

2. Быхаўская група—1 лекпом, 4 саніт. Чырвонага Крыжу.

3. Чавуская група—1 лекпом і 12 санітарак Чырв. Крыжу.

Усяго па ўсіх групах было зроблена дапамогі 64 чырвонаармейцам і 35 асобам з насельніцтва. Ня гледзячы на дождж, наша Санітарная дружына трымалася добра і працавала бадзёра.

**Пашкоўскі.**

## Мазыр

Падчас „Тыдню Абароны“ па гор. Мазыру былі праведзены Акруговым К-там Чырвонага Крыжу масавыя паходы разам з Санітарнымі Дружынамі і Гурткамі Першае Дапамогі. Былі арганізаваны сходы ў вёсках. На пабудову самалёту было сабрана звыш 300 руб.

**Навіцкі.**

## Гомель

Правядзеньне „Тыдню Абароны“ па гор. Гомелю і па раёнах Гомельскай акругі з боку Чырвонага Крыжу было падрыхтавана загадзя. Уся праца праводзілася супольна з Асоавіа-



Менск. Дружына Першай Дапамогі падчас паветрана-хэмічнай атакі.

хімам. 14 ліпеня наша Сан. Дружына ўдзельнічала ў начным камсамольскім паходзе, зрабіўшы 35 кілёмэтраў у адзін канец. Былі прызначаны дактары, арганізаваны Гурткі Першай Дапамогі і пададзена дапамога ва ўсіх патрэбных выпадках.

15 ліпеня адбылася дэманстрацыя грамадзкіх арганізацый з удзелам Сан. Дружыны, якая вярнулася з паходу, і ўсіх мясцовых гурткоў Першай Дапамогі і ячэек Чырвонага Крыжу.

22 чэрвеня, падчас паветрана-хэмічнай трывогі, Сан. Дружына ў поўным зборы зьявіліся сваячасова ў 7 гадзін раніцы

для ўдзелу ў інсцэніроўцы. Было арганізавана 4 пункты першай дапамогі і адзін лятучы санітарны атрад. Усе ўдзельнікі мелі процігазы і транспартныя сродкі. Як дэфэкт, трэба адзначыць ня зусім сур'ёзны падыход да мніма-атручаных.

Увечары, 22 ліпеня, было арганізавана гуляньне,—для сяброў Чырвонага Крыжу і Асоавіяхіму бясплатна,—і два даклады па радыё на тэму „Аб удзеле Чырвонага Крыжу ў „Тыдню Абароны“ і „Аб задачах Чырвонага Крыжу і працы яго Гомельскага К-ту“.

**Шэйман.**

---

# Выпуск чырвоных санітарак у Астрашыцкім-Гарадку

Два месяцы таму назад бюро ячэйкі Чырвонага Крыжу пры санаторыі „Чырвоны Кастрычнік“ быў арганізаваны гурток Першай Дапамогі, які прайшоў належную практычную і тэорытычную праграму.




Гурток першай дапамогі пры Нар. Доме ў м. Копысь, Аршанскае акругі.

9 супрацоўнікаў санаторыі малодшага пэрсаналу, якія акуратна наведвалі заняткі, атрымалі пасьведчаньні на ўрачыстым вечары-спайцы. Вечар гэты арганізаваў актыў супрацоўнікаў і на ім былі прадстаўнікі ЦПС „Мэдсанпрацы“ і НК Аховы Здароўя.

Са словам прывітаньня выступілі: кіраўнік гуртка д-р Мельнікаў, ад „Мэдсанпрацы“—т. Гарадзецкая і ад НК Аховы Здароўя—т. Багдановіч.

Трэба шчыра падзякаваць усім удзельнікам асабліва доктару Мельнікаву за тое, што на фронт санітарнае абароны Беларусі выпушчаны яшчэ дзесяць санітарак Чырвонага Крыжу.

**М. Шышко.**

---

## Менскія сан-дружыны на манэўрах

Вайсковыя часткі, як вядома, манэўрамі замацоўваюць атрыманыя імі за ўвесь год тэарэтычныя веды. А як нашы Вайскова-Санітарныя Дружыны таксама прадстаўляюць з сябе нейкую вайсковую частку, за што гаворыць сама назва гэтых дружын, то неабходна ім было таксама замацаваць на практыцы ўсе атрыманыя веды за час тэарэтычных заняткаў. З гэтаю мэтаю Мен. Акр. К-т Чырвонага Крыжу, дагаварыўшыся з адпаведным вайсковым камандваньнем, паслаў у якасьці Сан. часткі № батальёна Аса-авіяхіму, які накіроўваўся на манэўры паходным парадкам па маршруту—Менск—Барысаў,—зьвяно Сан. Дружыны ў колькасьці: 10 чырвоных сясьцёр і 3-х ротных лекпомаў на чале з доктарам; з імі накіравана належная паходная аптэчка і сан. літаратура. Таксама было накіравана аддзяленьне ў колькасьці 20 сясьцёр з адпаведнаю аптэкаю і сан. літаратураю ў гор. Барысаў.

Галоўнаю мэтаю гэтых чырвона-крыжных атрадаў зьяўлялася абслугоўваньне дывізыённага шпіталя і сан. частак манэўруючых частак. Пры гэтым-жа дывізыённым шпітале працаваў зубалячэбны габінэт, пасланы Мен. Акр. К-там, дзе чырвонаармейцы мелі магчымасьць лячыць зубы. Быў вылучан прадстаўнік у штаб кіраўніцтва манэўраў, які працаваў спэцыяльна па кіраўніцтву часткамі Чырвонага Крыжу, прымаючымі ўдзел у манэўрах.

Прыбыўшае ў Барысаў Аддзяленьне Менскіх Дружыньнікаў было сустрэчана вельмі добра, і пры дывізыённым шпіталі (Чырвоныя казармы) прыбыўшым загадзя падрыхтавалі ўсё патрэбнае як для працы, таксама і для жыцьця. Там было ўжо шмат хворых чыр-цаў, і дружыньніцы зараз-жа былі размяркованы на чаргі дзеля варты каля гэтых хворых. Сёстры тут-жа зьмянілі сваю адзежу на шпітальныя халаты і касынкі і праз гадзіну напаміналі сабой сапраўдны шпіталь вайсковага часу.

К моманту боек 15 сясьцёр, якія знаходзіліся ў шпіталі, арганізованым парадкам былі накіраваны ў Сан. аддзелы вайсковых частак, што прымалі непасрэдны ўдзел у манэўрах. Яны былі разьмяркованы наступным чынам: у № полк—5 чал., у арт. полк—5 чал. і № батальён Аса-Авіяхіму—5 чал.

Усе яны знаёміліся на практыцы з працай сястры вайсковага часу на бліжэйшым ад лініі бойкі перавязачным пункце, а некаторыя прымалі ўдзел у сан. абслугоўваньні пры фарсыраваньні ракі Беразіны. З Барысаўскае Сан. Дружыны таксама была ўтворана самастойная сан. частка колькасьцю ў 13 чал., на чале з лекпомом; яна абслугоўвала мясцовы батальён Асаавіахіму.

Па сканчэньні манэўраў праца Дружын была праверана яшчэ абаронаю гор. Барысава ад паветрана-хімічнага нападу, калі ўсе сёстры і менскія і барысаўскія прымалі непасрэдны ўдзел у сан. абароне гораду. У гэтай справе было занята каля 70 сясьцёр—разьмяркованых на 5 пунктаў першае дапамогі і 1 эвака-прыёмніка;—і як сродкамі транспарту цяжка параненых і атручаных зьяўляліся 2 аўтабусы, на якіх знаходзілася пад час абароны па 2 сястры і 1 доктару. Імі было транспартавана цяжка параненых і атручаных—15 чал., рэшце пацярпеўшым была аказана першая дапамога.

Трэба адзначыць, што гэтая абарона дала сёстрам шмат практыкі на выпадак сапраўднага варожага нападу. Хоць і на ўмоўна параненых і атручаных, але ім усё-ж прышлося рабіць перавязкі, прамываць раны, пераносіць і транспартыраваць хворых і г. д. Праца гэта праводзілася пры самых сур'ёзных адносінах і была выканана добра; гэта было адзначана як на мітынгу пры сканчэньні нападу, так і пры разборцы нач. складам абароны.

Наогул з манэўраў г. г. нашы Вайскова-Санітарныя Дружыны выйшлі са значным вопытам. Усе сестры, якія ўдзельнічалі ў манэўрах, засталіся здаволенымі, ня гледзячы на некаторыя труднасьці, няўнікнёныя пры першых спробах.

Неабходна адзначыць тую актыўнасьць, дысцыплінаванасьць, спайку і тыя зразумелыя адносіны да справы, з якімі адносіліся сёстры да сваіх абавязкаў. Цікава было бачыць іх за працай з тэрмомэтрам пры зьмераньні тэмпэратуры хворых, перавязываючых параненых, аказваючых першую дапамогу атручаным. Неяк упэўнена станавілася на душы, бачачы, што нас неспадзеўкі не захопяць і што на выпадак варожага нападу мы маем чым санітарна бараніць нашу сацыялістычную краіну.

**Ф. Кусьцікаў.**


Аддзеленьне Войск. Санітарн. Дружын П.Д. на манэўрах 1928 г. г. Барысаў
Менскіх Дывізыённы шпіталь.

# Хроніка

## У цэнтральным камітэце

* Прыймаючы пад увагу, што ўвесь запас значкоў Беларускага Чырвонага Крыжу ўжо выдаткаваўся, ЦК заказаў новую партыю ў ліку 10.000 штук. Першая партыя ўжо гатова, і з 1-га кастрычніка паступіць у продаж. Значкі зроблены ў Маскве па старому ўзору.

* Цэнтральны Камітэт атрымаў ад Галоўнага Ўпраўленьня Т-ва Чырвонага Крыжу Арменіі запросіны на яго І-шы Рэспубліканскі Зьезд. ЦК паслаў на імя Старшыні Гал. Упр. Армянскага Чырвонага Крыжу адпаведную прывітальную тэлеграму.

* Вярнуўся з навуковай камандыроўкі Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу М. Барсукоў. Тав. Барсукоў зрабіў на Міжнародным Кангрэсе Сацыяльнай Гігіены і Санітарыі ў Парыжы даклад аб становішчы гэтае справы ў БССР і арганізаваў на выстаўцы Кангрэса куток Бел. Чырвонага Крыжу. Тав. Барсукоў наведаў, апрача таго, Лігу Чырвонага Крыжу ў Парыжы, дзе меў гутарку з Генэральным Сакратаром Лігі Кетрыджам.

* З 15-га мая Чырвоны Крыж арганізаваў снабжэньне спальнай бялізнай курортных цягнікоў, якія праходзяць праз БССР. Гэтая справа знаходзіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам Выканкому Чырвонага Крыжу і Паўмесяцу і пад наглядам ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу.

* Згодна пастановы СНК БССР Паліклініка зубных хваробаў ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу перайменавана ў „Одонтолёгічны Інстытут“. З 1-га кастрычніка азначаны Інстытут перайшоў на ўтрыманьне Нар. Кам. Аховы Здароўя.

* Зацьверджана Наркамфінам, Наркамасьветы і ЦК Чырвонага Крыжу новая інструкцыя па зборах на карысьць Чырвонага Крыжу ад усялякіх відовішчаў. Інструкцыя ўносіць сталы парадак і дысцыпліну ў справу збораў, што безварункова прычыніцца палягчэньню паступленьняў у касы Акруговых Камітэтаў.

## У аддзеле заграғічнай дапамогі

Дзейнасьць Аддзелу ЦК па заграгічнай дапамозе разьвіваецца апошнім часам вельмі значна. Ня толькі ахапляюцца работай усе шырэйшыя колы нашага савецкага грамадзтва, але ёсьць і рэальныя вынікі ў сэнсе матар'яльнай дапамогі зацікаўленым асобам.

Згодна даных Аддзелу, усяго да 1-га кастрычніка б. г. паступіла заяў ад грамадзян БССР і ўзьнята спраў—562.

З гэтага ліку закончана 44 і 518 знаходзяцца яшчэ ў стадыі распрацоўкі. Справы гэтыя розныя: хто шукае сваіх родных і сваякоў, з якімі падчас вайны і рэволюцыі згубіў сувязь; хто вымагае грашовага забясьпечаньня з Амэрыкі за салдат, загінуўшых у вялікую вайну, або страхоўкі за рабочых, якія страцілі працаздольнасьць на амэрыканскіх фабрыках; хто вышуквае спадчыну за межамі і г. д.

З закончаных спраў —7 асобам прысуджана страхавая прэмія за забітых у амэрыканскай арміі, родных грамадзян БССР на суму 40.000 доляраў; 2-м асобам—быўшым салдатам амэрыканскай арміі, прысуджаны спэцыяльны бонус на суму 1750 доляраў; пажыцьцёвых пэнсый прысуджана 3-м асобам—па 15 і 30 доляраў штомесячна. Адшуканы ў Амэрыцы 24 асобы, па СССР—6 асоб і ў Даніі—1 асоба.

**Д. Кузьмінскі.**

## Новы старшыня Міжнароднага Камітэту чырвонага Крыжу

У траўні бягучага году адбыліся выбары новага старшыні Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу ў Жэнэве. Быў абраны прафэсар Макс Губэр з Цурыху, які зьяўляецца адным з выдатнейшых буржуазных правазнаўцаў і мае вядомае імя ў міжнародным юрыдычным сьвеце.

Грамадзкая і навуковая кар'ера праф. Губэра наступная: з 1902 да 1921 году ён быў прафэсарам права ў Цурыхскім унівэрсытэце, а з 1913 да 1921 г. быў сябрам Інстытуту Міжнароднага Права. Адзін час працаваў за кансультанта па юрыдычных справах пры Фэдэральным Палітычным Дэпартаманце Швайцарыі (Міністэрства Замежных Спраў). Быў сябрам швайцарскай дэлегацыі на паседжаньнях Лігі Нацый, а затым сябрам і з 1925 г. да 1927 г. старшынёю Міжнароднага Сталага суду ў Гаазе. Сябрам Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу ён назначаны параўнаўча нядаўна — якіх тры-чатыры гады назад. Актыўны ўдзел у працы Міжнароднага Камітэту пачаў прымаць з 1926 году, галоўным чынам у справе спрэчак паміж Міжнародным Камітэтам і Лігай Чырвоных Крыжоў. З мінулага году ён зьяўляецца адным з трох віцэ-прэзыдэнтаў Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу.



Макс Губэр. Новы старшыня Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу.

Міжнародны Камітэт фактам абраньня праф. Макса Губэра на пасаду свайго старшыні падкрэсьліў сваю пазыцыю фармальнага „абаронцы міжнародных конвэнцый і іх юрыдычнага тлумача“.

Знимать

# ОФІЦЫЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ

## Загад Рэвалюцыйнага Вайсковага Савету ССС Рэспублік

### № 254

*20 жнiўня 1928 г., г. Масква*

Рабоча-Сялянская Чырвоная армія з першых дзён свайго існаваньня была акружана поўнай увагай з боку дзяржаўных установ Саюзу і савецкай грамадзкасьці. Гэтая ўвага ня зьменшылася і ў той час, калі Чырвоная армія перайшла на мірнае будаўніцтва.

Асабліва паказальнымі ў сэнсе пасіленьня гэтае дапамогі зьяўляюцца дні Х-годзьдзя РСЧА, калі ў агульным уздыме ўвагі да Чырвонае арміі павялічылі сваю дапамогу і грамадзкія арганізацыі Аховы Здароўя і Цэнтральныя Камітэты Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяцу.

Дапамога гэтых арганізацый выявілася ў прадстаўленьні стацыянарных месц на курортах дзяржаўнага і мясцовага значэньня і мясцовых санаторыях, у навуковых інстытутах, больніцах і пастаянных амбуляторных месц, у спэцыяльных лекавых установах, а таксама ў устанаўленьні высокакваліфікаванай доктарскай кансультацыі.

Асабліва павялічыліся віды спэцыяльнай дапамогі членам сямей вайскова-служачых і, у прыватнасьці, дзецям.

Гэтую дапамогу трэба прызнаць асабліва каштоўнай дзеля таго, што ў паказаных відах яе была больш значная патрэба. Па агульнаму жаданьню органаў Аховы Здароўя і Цэнтральных Камітэтаў Чырвон. Крыжу і Чырвон. Паўмесяцу ўсім гэтым вылучаным амбуляторным і стацыянарным установам прысвоены назвы „Імя Х-годзьдзя РСЧА“.

РВС СССР, адзначаючы гэтую дапамогу у дні Х-годзьдзя РСЧА, прыносіць падзяку Народным Камісарыятам РСФСР, УССР, БССР, ССР Грузіі, ССР Арменіі, ССР Азэйбарджану, Узьбекскай ССР і ССР Туркмэністану, Сібірскаму

і Паўночнаму Каўкаскаму Краёвым Кіраўніцтвам Аховы Здароўя, Аддзелу Аховы Здароўя Маскоўскага савету, Аддзелам Аховы Здароўя Ленінградзкага Абласнога савету, Саратаўскага і Бакінскага Савету РК і КД, Кіраўніцтву Казанскага Дзяржаўнага Інстытуту ўдасканаленьня дактароў імя У. І. Леніна, Цэнтральным Камітэтам Расійскага, Украінскага, Беларускага і Армянскага Т-ва Чырвонага Крыжу і Азэрбайджанскаму Т-ву Чырвонага Паўмесяца.

Нам. Нар. Кам. Ваенмора і Прэд. Рэвваенсавету
*С. Каменеў.*

Згодна: Начальнік 4 аддзелу Кіраўнік
Спраў РВС СССР *Якушкін.*

---

## Рэзалюцыя II Усебеларускага Зьезду аб разбраеньні і недапушчальнасьці хэмічнае вайны

Другі Ўсебеларускі Зьезд Чырвонага Крыжу, заслухаўшы даклад тав. Барсукова аб міжнародным становішчы, адзначае, што міжнародны капіталізм, дасланяючыся фальшывымі сказамі аб міры, вядзе шалёную падрыхтоўку да новых войн.

Узброеныя найбольш дасканалымі спосабамі спусташэньня людзкасьці, з якіх задушлівыя газы будуць адыгрываць першаступовую ролю, імпэрыялістыя рыхтуюць у першую чаргу ўдар супроць цытадэлі рабочае клясы—краіны Саветаў.

Найбольш яскравым выражэньнем фальшывасьці міжнароднага капіталізму зьяўляецца яго апошні камэдыяльны акт, разыграны імпэрыялістымі ў Камісіі Лігі Нацый па разбраеньні.

Сьмелую, рашучую, проста пастаўленую прапанову савецкае дэлегацыі аб неадкладным усеагульным разбраеньні і аб адмове ад хэмічных спосабаў вайны—прадстаўнікі так званых „дэмакратычных дзяржаў“ адхілілі.

Гэтым самым яны адмовіліся ад адзінага правідловага савецкага рашэньня пытаньня, якое рашэньне магло вызваліць працоўных усяго сьвету ад крывавае здані вайны.

Другі Ўсебеларускі Зьезд Чырвонага Крыжу, супольна з усімі працоўнымі Савецкага Саюзу, падымае голас пратэсту супроць падрыхтоўкі новых крывавых авантур. Зьезд зварочваецца да Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу ў Жэнэве і да ўсіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў сьвету з гарачым заклікам зьвярнуць увагу грамадзкай думкі Эўропы і Амэрыкі на адмову Камісіі Лігі Нацый прыняць савецкую прапанову аб усеагульным разбраеньні, а таксама на адмову некаторых

імпэрыялістычных дзяржаў падпісаць пратакол аб недапушчальнасьці хэмічнае вайны.

Няхай міжнародная арганізацыя Чырвоных Крыжоў і Чырвоных Паўмесяцаў павядзе рашучую барацьбу супроць новых крывавых авантур, якія падрыхтоўваюцца імпэрыялістымі!

Прэч вайну!

Няхай жыве ўсеагульнае разбраеньне!

Няхай не пасьмеюць злосныя замыслы капіталізму паставіць пад пагрозу жыцьцё рабочых і сялян усяго сьвету!

---

## Résolution du 2-d Congrès de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche au sujet du désarmement et de l'inadmissibilité d'une guerre chimique

Le 2-d Congrès de la Croix Rouge de toute la Ruthénie Blanche après avoir entendu le rapport du cam. Barsoukoff au sujet de la situation internationale certifie que le capitalisme international se déguisant sous de fausses assurances de paix se prépare frénétiquement à la guerre.

Armés de moyens les plus parfaits de la destruction de l'humanité, parmi lesquels les gaz asphyxiants devront jouer un rôle prépondérant, les impérialistes préparent avant tout une attaque contre la citadelle de la classe ouvrierè,—le pays de Soviets.

La plus éclatante expression de la fausseté du capitalisme international apparaît dans le dernier acte de la comédie jouée par les Impérialistes à la Commission de la Ligue des Nations dans la question du désarmement.

La proposition hardie, si résolument posée par la Délégation Soviétique d'un désarmement immédiat et général et du refus des moyens de guerre chimiques, a été repoussée par les représentants des soi-disants Etats démocratiques.

Par cela même ils ont renoncé à l'unique et juste solution soviétique de la question, une solution qui seule pourrait délivrer les travailleurs de tout l'univers des horreurs d'une guerre possible.

Le 2-d Congrès de la Croix Rouge de toute la Ruthénie Blanche éléve sa voix avec tous les travailleurs de l'Union Soviétique protestant contre les préparatifs de nouvelles aventures sanglantes. Le Congrès s'adresse du Comité International de la Croix Rouge à Genève et à toutes les Croix et Croissants Rouges de l'Univers avec un appel ardent d'attirer l'attention de la société et des hommes pensants de l' Europe et de l' Amérique sur le refus de la

Commission de la Ligue des Nations d'accepter la proposition Soviétique du désarmement général, ainsi que sur le refus de quelques Etats Impérialistiques de signer le protocole de l'inadmissibilité d'une guerre chimique.

Que l'organisation internationale de la Croix Rouge et du Croissant Rouge mène une lutte décisive contre les nouvelles aventures sanglantes préparées par les impérialistes.

Abas la guerre!

Vive le désarmement général!

Que les desseins malicieux du capitalisme n'osent pas menacer la vie des ouvriers et des paysant de tout l'univers.

---

## Сацыяльна-гігіенічнае значэньне савецкай аховы здароўя.

*Даклад прачытаны на францускай мове на Міжнародным Кангрэсе па сацыяльнай гігіене ў Парыжы 12-VII-1928 г.*

У гісторыі людзкасьці ўпяршыню толькі ў Савецкім Саюзе было так рэзка і выразна пастаўлена перад дзяржаўнай уладай пытаньне аховы здароўя, як вялікая дзяржаўная сацыяльна-аздараўляючая праблема.

Мы ведаем і нам добра знаёмы асобныя дзеячы мэдыцыны, вялікія тварцы новых ідэй і знаходжаньняў, але мы амаль нічога ня ведаем, наколькі мэдыцына прасочвалася ў сацыяльнае жыцьцё і наколькі ёй былі ўласьцівы сацыяльна-эканамічныя заданьні. Мэдыцына лічылася прыватнай справай, на доктара глядзелі толькі як на рамесьніка і ацэньвалі яго якасьць выключна з пункту погляду лекавага. Доктар мімаволі замыкаўся ў сваю лекавую тэхніку, больш аддаваў увагі на індывідуальнае вывучэньне хворага, а ўсё, што датычыла надворнага жыцьця, умоў, пры якіх праходзіла жыцьцё хворага, — адсоўвалася на бок. Усё гэта накладала на доктара асаблівы, спэцыяльны адбітак і не выпадкова, што цэльны шэраг найвялікшых ідэй у галіне мэдыцыны тварыўся не дактарамі, а біалёгамі, якімі былі, прыкладам, Пастэр і Мечнікаў.

Савецкае разуменьне аховы здароўя зусім ня хоча зьменшаць значэньня індывідуальнай лекавай дапамогі, але Савецкая ўлада ясна аддае сабе адчот, што гэтая дапамога будзе дарэмнай, будзе кruціцца на халастым ходзе, калі навокал дактароў ня створыцца прыхільная грамадзянская апінія і калі ў будаўніцтва аховы здароўя ня будуць уцягнуты шырокія гушчы насельніцтва, у першую чаргу працоўныя.

Ува ўсім Савецкім Саюзе, і ў прыватнасьці ў Савецкай Беларусі, зьяўляецца цяпер аксыомай, што як-бы многа ня пісалі добрых дэкрэтаў па ахове здароўя, але калі ўсе гэтыя мерапрыемствы ня будуць усьвядомлены і зразумелы шырокімі народнымі масамі, ня пройдуць праз іх крытыку — ніколі ніводнае пачынаньне ўраду ня будзе мець посьпеху. Адным з мэтадаў уцягваньня насельніцтва ў арганізацыйную працу па ахове здароўя, зьяўляецца наша дыспансэрная сыстэма лекавай дапамогі.

Нашы больніцы мы паступова перарабляем у стацыянары дыспансэраў, а звычайныя амбуляторыі, дзе раней давалася індывідуальная мэдычная дапамога, пачынаюць рабіцца дыспансэрамі.

Пры кожным дыспансэры ў нас ёсьць Саветы Сацыяльнай Дапамогі, дзе кожны працоўны можа прыняць удзел у працы і дапамагчы доктару хутчэй зьнішчыць тыя шкадлівыя ўмовы працы і жыцьця, у якіх жывуць і працуюць хворыя, што прыходзяць у лекавую ўстанову.

Савецкая мэдыцына цалкам стала дзяржаўнай і бясплатнай. Удзельная вага прыватнай мэдыцыны, якая знаходзіцца ў руках часткі практыкуючых дактароў, нікчэмна ў параўнаньні з дзяржаўнай. Тое-ж самае датычыць і аптэк, якія ў нас хутчэй носяць характар дастаўляючы, чым камэрцыйны, бо ўсе застрахаваныя рабочыя і служачыя, а таксама бяднейшае сялянства, атрымліваюць мэдыкамэнты зусім дармова.

Савецкая мэдыцына значна наблізілася беспасрэдна да насельніцтва, і мы бачым, як кожны год расьце лік мэдычных пунктаў на фабрычных прадпрыемствах і лік мэдычных амбуляторый на вёсцы.

Савецкая мэдыцына на першае месца ставіць сацыяльнае законадаўства, і толькі ўвязваючы з імі свае лекавыя мерапрыемствы, савецкая ахова здароўя падыходзіць да разьвязваньня галоўных санітарных заданьняў. Пры ацэнцы якаснага становішча аховы здароўя, мы сваім крытэрыям лічым ня толькі лік больніц, альбо амбуляторый, але ўзровень уплыву справы ахова здароўя на эканоміку дзяржавы. Правільнае вырашэньне кватэрнага пытаньня, ахова працы, грамадзкае харчаваньне, камунальны дабрабыт, усясыстэма разгортваньня прамысловасьці і народнае гаспадаркі ў цэлым,—вось дзе, па нашай думцы, павінна правідлова пераламляцца ўся нашая сыстэма аздараўленьня шырокіх народных мас. У выніку нашай 10-гадовай працы, мы па Савецкай Беларусі маем наступныя вынікі: прырост насельніцтва за апошнія тры гады бязупынна расьце. Сьмяротнасьць сярод грудных дзяцей зьмяншаецца. Так, у гарадох БССР у 1925 годзе на 100 нарадзіўшыхся памерла 11,2 дзяцей у ўзросьце да аднаго году, у вясковых

месцовясьцях—12,7. Да рэвалюцыі быў іншы малюнак: так, прыкладам, у 1909 годзе на 100 нарадзіўшыхся—памерла 20,1.

Некалькі лічбаў узятых выпадкова з Савецкай сапраўднасьці паказваюць, што санітарнае становішча краіны ў сучасны момант значна лепшае, чым у дарэвалюцыйны час. Безварункова, гэта не выпадковае зьявішча, тут выявіліся шмат якія супольныя фактары. Ня толькі плянавасьць і цьвёрдасьць правядзеньня мэдычна-санітарных мерапрыемстваў зьяўляюцца прычынай палепшаньня санітарнага дабрабыту ў БССР, але ў асноўным,—гэта ёсьць бязумоўна вынік агульнага ўздыму народнае гаспадаркі і культурнага ўзросту працоўных.

Вынікі савецкай палітыкі ў галіне гігіены зьяўляюцца падцьвярджэньнем таго, што знаходжаньне мэдыцыны і аховы грамадзкага здароўя ў руках дзяржавы дала ў невялікі працяг часу найвялікшы эфэкт практычнага дзеяньня.

Дзеля гэтага, на аснове атрыманага намі вопыту, які падцьвердзіў нашы агульныя прынцыпы, мы будзем дабівацца яшчэ большага ўдзелу дзяржавы ў галіне гігіены.

**М. Барсукоў.**

# L'Importance Sociale et hygiènique de l'oeuvre soviètique de la Santé Publique.

*Lé rapport du Président du Comité Central de la Croix Rouge Blanche-Rutheniene M. BARSOUKOFF au Congrès Hygiène Sociale à Paris 12-VII-1928.*

C'est dans l'Union des Républiques Socialistes Soviétistes que, pour la première fois dans l'histoire de l'humanité, on a posé la problème de la santé publique comme un problème d'Etat, comme un problème d'une énorme importance sociale et hygiénique.

Nous connaîssons bien lles grands hommes de la médecine, les grands créateurs de nouvelles idées qui, au cours des siècles passés faisaient bénéficier l'humanité de leurs découvertes. Mais nous ignorons complétement le rôle que, dans le passé, a joué la médecine dans la vie sociale, nous ne savons pas à quel point elle arrivait à s'introduire dans la vie sociale, quels étaient ses buts sociaux et économiques qu'elle se proposait.

La médecine était considérée comme une chose privée et le médecin n'était considéré que comme un artisan. Ses qualités n'étaient appréciées qu'en tant qu'il pouvait procurer un soulagement individuel en instituant un traitement plus ou moins approprié à la maladie. Le médecin s'enfermait malgré lui dans sa clientèle, dans sa technique médicale, il, se consacrait beaucoup plus à l'étude individuel du malade qu'à létude des conditions d'existence du malade. Il s'écartait volontairement du milieu dans lequel était obligé de vivre et de travailer son malade. Cette spécialisation donnait un caractère spécial à toute l'activité médicale. Et ce n'est pas une question de simple hasard que toute une série de grandes idées dans le domaine de la médecine étaient énoncées non pas par des médecins, mais par des biologistes tels que, par exemple, Pasteur ou Metchnikoff.

La compréhension soviétique de la protection de la santé ne tend nullement à diminuer la valeur de l'aide médicale individuelle.

Mais les pouvoirs soviétiques se rendent très bien compte que cette aide s'exercera pour ainsi dire à vide, qu'elle ne donnera pas tous les résultats escomptés si une atmosphère favorable ne se créé pas autour du médecin et si les grandes masses de la population ne prennent pas part à l'oeuvre del'hygiène. Et, parmi ces grandes masses il faut citer en premier lieu les masses ouvrières. Dans toute l'Union Soviétique et, en particulier, dans la République Soviétiste de la Russie Blanche dont je suis représentant, il est actuellement admis comme principe absolu queon a beau publier de très bons decrets concernant la protection de la santé, mais si les mesures préconisées par ces decrets ne sont pas compréhensibles aux grandes masses de la population, si elles ne sont pas critiquées et admise par ces masses, aucune initiative gouvernemantale n'aura de succés qu'il mérite. Une des meilleurs méthodes pour faire participer les grandes masses de la population à l'oeuvre de la protection de la santé publique est notre système de dispensaires applicable à presque toutes les formes des soins médicaux. Nous transformons petit à petit nos hôpitaux en dispensaires avec des lits pour les malades stationnaires. D'autre part, nous transformons les consultations ordinaires qui, avant, n'étaient destinées qu'à rendre des services médicaux individuels, également en dispensaires. Dans l'Union Soviétique, on rattache á chaque dispensaire un Conseil d'Aide sociale qui permettent à tous les travailleurs de prendre une part active au travail du dispensaire et où ils peuvent aider le médecin à faire diparaître les mauvaises conditions d'existence dans lesquelles son jusqu'à présent obligés de vivre et de travailler les clients habituels de ces dispensaires.

La médecine soviétique est devenue dans son ensemble une médecine d'Etat basée sur le principe de soins médicaux absolument gratuits. La proportion et la valeur des médecins qui font de la clientèle privée sont minimes à côté de la médecine d'Etat. Il en est de même en ce qui concerne les pharmacies. En effet, chez nous les pharmacies ont perdu complétement leur caractère commerciale et sont destinées seulement à fournir les médicaments et les objets de soins médicaux à la population. Tous les salariés assurés par l'Etat en vertu de la loi sur les Assurances sociales de même que les paysans pauvres y reçoivent gratuitement tout ce qui leur est nécessaire en vertu des prescriptions médicales.

La médecine soviétique a fait un grand pas pour se rapprocher directement de la population. Tous les ans, le nombre de postes médicaux et de consultations médicales dans les campagnes s'accroît.

La médecine soviétique met au premier plan la législation sociale, et ce n'est qu'en contact intime avec cette législation qu'elle aborde la solution de principaux problèmes de la protection de la

santé publique. Pour apprécier quantitativement l'état de l'organisation de la protection de la santé publique, nous tenons compte non sellement du nombre d'hôpitaux et de consultations mais également et surtout le degré d'influence du système de protection de la santé sur l'état économique du pays. Une solution juste du problème du logement, la protection du travail, l'organisation des restaurants publiques, l'aménagement des villes, le développement de l'industrie et de l'économie nationale en général,—telle sont les formes de la vie sociale dans lesquelles doit se faire sentir l'influence de notre système de protection de la santé publique.

Pour appuyer ces idées, je puis citer quelques chiffres qui se rapportent à la Russie Blanche Soviétique. L'accroissement de la population devient, dans ces dernières années, de plus en plus marqué. La mortalité infantile au cours de la première année diminue. Ainsi, avant la Révoluti en 1909, il mourait 20,1°/₀ d'enfants âgés de moins de un an. En 1925, il n'en mourait plus que 11,2°/₀ dans les villes et 12,7°/₀ dans les campagnes. Ces quelques chiffres pris au hasard dans la réalité soviétique montrent que l'état hygiénique actuel se présente sous un jour beaucoup plus favorable qu'avant la Révolution. Il est évident que ce fait n'etst pas dû au hasard et qu'il est dû à l'influence de plusieurs facteurs sociaux. Les causes de l'amélioration de l'état sanitaire de la Russie Blanche ne sont pas attribuables seulement à la réalisation d'un plan dûment réfléchi et à une ténacité dans l'application des mesures médico-hygiéniques. Ces faits, dans leur ensemble, doivent être considérés comme la conséquence d'un développement de l'économie nationale et de l'amélioration des conditions d'existence des travailleurs.

Les résultats de notre politique en matière d'hygiène nous prouvent que la concentration de la médecine et de la protection de la santé publique entre les mains de l'Etat a pu, en minimum de temps, donner le maximum de résultats. Par conséquent, sûrs de l'expérience acquise qui a confirmé nos principes généraux, nous allons développer davantage l'oeuvre de l'Etat en matière d'hygiène.

С. Лаўрыненка




## Агітка ў аднэй дзеі

(*Пераклад з украінскае мовы*)

Асобы:

1. Куцы Нічыпар—заможны селянін (глухі). Уласьнік паравога млыну.
2. Пішчык Радзівон Сямёнавіч—бяз пэўнага занятку, нібы адвакат.
3. Трышка—малады хлапец, вычышчаны з камсамолу.
4. Ганна Пятроўна—настаўніца.
5. Таранава Хрысьця —незаможная сялянка.
6. Часнок Анісь—селянін, бядняк.
7. Грыцук Кандрат — селянін, служыў у японскую вайну санітарам.

ЗЬЯВА І-я

(Сяло. Школа. Нядзеля. Уваходзяць Куцы з Пішчыкам).

Пішчык. Пасьпяшылі мы. Яшчэ нікога няма.

Куцы. Га?

Пішчык (голасна). Нічога кажу няма.

Куцы. Бачу, бачу... Дзе і возьмецца на нашу галаву, га?

Пішчык. Гэта яшчэ пабачым, чыя возьме. А бяруцца яны шпарка.

Куцы (недачуўшы) Ну як-жа ня шкода. Свайго млына, ды каб ня шкода.

Пішчык (сам сабе). Ат... Ты яму голена, а ён табе стрыжана.

Куцы (тлумача сваё). Ведама, што шкода. Гэта-ж падабралі-б сваіх людцоў: я, вы, а там яшчэ хтось, ды маолі-б сабе на здароўечка. На вывесцы арцель, а на справе—млын то мой.

Пішчык. А яны, бач, дабіваюцца, каб на вывесцы замест арцелі быў Крыж.

Куцы. Ато-ж, ато-ж. А дзеля чаго, каму яно патрэбна?

Пішчык. А чорт яго там ведае, каму яно патрэбна. Трэба так зрабіць, каб ня было яго, вось і ўсё.

Куцы. Во, во. У гэты пункт трэба і гнуць.

Пішчык. Я ўжо таму-сяму казаў, што ня трэба нам ніякага Чырвонага Крыжу.

Куцы. Га?

Пішчык. Навучыў таго сяго, што



і як казаць. Вы-ж ведаеце, што я на словах, як на арганах.

Куцы. Як кажаце?

Пішчык. У мяне ў галаве цэлы ляксікон.

Куцы (не зразумеў). Ага-ж. Як у людзей, так і ў нас.

Пішчык. А млын такі нам дадуць. Гэта яны гарачыя цяпер, бо гэта новая справа—Чырвоны Крыж. А калі ахалоне, дык і расьцярушыцца, аж загудзе.

Куцы (паварачваецца не дачуўшы). Хто, кажаце, ідзе?

Пішчык (голасна). З вамі, Нічыпар Іванавіч, ня можна па сакрэту пагаварыць, усё сяло пачуе.

Куцы. А вы, Радзівон Сямёнавіч, ня гукайце. Я чую, вы на вуха ціхонька—то я і пачую.

Пішчык. У раёне мне гэтак казалі, што хоць і дамагаецца Чырвоны Крыж узяць млын у арэнду, але адразу ня можна яму даць, бо яшчэ толькі арганізуецца. Няма фармальна каму даць. А ваша арцель, кажуць, фармальная.

Куцы. Ведама, фармальная.

Пішчык. Цыц, нехта ідзе.

(Чуецца сьпеў Трышкі: „На коніку вараным“...).

Пішчык. Прыгожую песьню сьпяваеш.

Трышка. Падабалася?

Пішчык. Весела жывецца, калі сьпяваеш.

Трышка. Усясьветнаму пралетарыяту няма часу нудзіцца.

Пішчык. Ну. хіба-ж што гэтак...

Трышка (грозна). А чаго школа адчынена і цёмныя алімэнты ў ёй сядзяць? Хто даў дазвол?

Пішчык. Тут мае адбыцца пасяджэньне ці што.

Трышка. Ага... Адзінагласнае сабраньне пры двух воздержавшыхся Зразумела Які парадак дню?

Куцы: Га?

Пішчык. Будуць арганізоўваць Чырвоны Крыж.

Трышка. Для мяне, як для сьвядомага камсамольца, няма ніякіх крыжоў, не прызнаю нават і чырвоных.

Пішчык. Я сам проці, і ўсім трэба быць супроць.

Трышка. Крыжы ды папы для ўсякіх несьвядомых беспартыйных.

Куцы. Га?



Пішчык. Ведама для несьвядомых. Ну, там каапэратыў ці камітэт беднаты—гэта савецкая справа, а то Чырвоны Крыж. Дзеля чаго ён?

Куцы. Пэўна, дзеля чаго.

Трышка. Адным словам (сьпявае): Далоў, далоў манахаў, рабінаў, папоў (кажа), мяне, як сьвядомага на бога ня возьмеш. Контррэвалюцыю не дазволю. Ніякіх крыжападобных арганізацый не дапушчу.

Куцы. О, разумнага чалавека прыемна и паслухаць. Я, Трышка, вінен я перад табой, згорача вылаяў цябе, калі адабралі ад мяне голас.

Трышка. Для мяне лаянка несьвядомага беспартыйнага алімэнта ўсё роўна, як аб сьцяну гарох.

Куцы. А ведама-ж... Як кажа прыслоўе — сабака брэша, а вецер носіць.

Трышка / Пішчык. (сьмяюцца).

Куцы. А вы і мне скажыце, можа і я засьмяюся.

Пішчык. Нічога, Нічыпар Іванавіч. з посьмехам людзі бываюць. Хадзем, мабыць, у Савет. Сёньня-ж пошту прывязуць. А потым зойдзем: закарцела людзям якогась Чырвонага Крыжу. (Пайшлі).

ЗЬЯВА II-ая.

Трышка. Падзівімся, хто тут тлумача пра ўсялякія там крыжы. Я ім пакажу. Мяне на бога ня возьмуць яны.

ЗЬЯВА III-яя.

(Ганна Пятроўна нясе плякаты, малюнкі і ладзіць іх па сьценках).

Ганна Пятр. Дабрыдзень, таварышу Трахіму.

Трышка. Драсьцеце, Ганна Пятроўна.

Ганна Пятр. Чулі? Арганізуем Камітэт Чырвонага Крыжу.

Трышка (паважна). Забаронена.

Ганна Пятр. Што забаронена?

Трышка. Усялякія крыжападобныя арганізацыі.



Ганна Пятр. Ха-ха-ха!

Трышка. Чаго вы рагочаце? Крыж там усялякі — гэта рэлігія, опій для народа, і кожны сьвядомы чалавек скажа - забараніць.

Ганна Пятр. Ха-ха-ха! Ну, што вы! Так можа казаць толькі палітычна неасьвечаны, а вы-ж...

Трышка. Хто палітычна неасьвечаны? Я? Дык я можа ўсе капіталы Карла Маркса ведаю, як свае пяць пальцаў. Ды я кожную лінію і ўсялякую пляцформу ведаю.

Ганна Пятр. А калі ведаеце, дык навошта глупства кажаце. Учора мне казаў Рыгор, што ваша ўся ячэйка вынесла пастанову залічыцца сябрамі ў Камітэт Чырвонага Крыжу.

Трышка. А я—не. Не да душы мне—вось і ўсе. Яны мне ня ўказ. Можа яны пойдуць усе супроць сусьветнага пралетарыяту, дык я мушу



сьледам за імі? Не, я сваю пляцформу ведаю. Я капіталы Карла Маркса чытаў. Я...

Ганна Пятр (успомніла). Чакайце, Трахім, вы-ж ужо не камсамолец. Вас вычысьцілі з ячэйкі.

Трышка. Ну што-ж з таго. Пляваць я хацеў на гэтую чыстку. Я сваю пляцформу ведаю. Я за лінію сусьветнага пралетарыяту. А ў ячэйцы буржуйскія прыхвасьні.

Ганна Пятр.—Як так? Ха-ха-ха!

Трышка. Валасы прылізваюць; ваксай боты шмаруюць, адно слова—несьвядомыя алімэнты. Я за сусьветную пляцформу—вось і ўсё. А што з ячэйкі выкінулі, дык я ведаю, хто гэта набрахаў. Паглядзім, як яны ўсе заскачуць, калі я вось пайду да Менску ды падам скаргу. Бывайце здаровы. (Пайшоў).

ЗЬЯВА IV-ая

Рагуля (голас за сцэнай). Як быў дурнем, такім і застаўся.

ЗЬЯВА V-ая

(Грыцук з Часнаком).

Грыцук. ...Пад Ляолянам гэта было. От дзе баталія паднялася. Гэтак на гарбочку японцы, а гэтак мы.

О! (паказвае на малюнкі). усё роўна, як у шпіталю. Здаровы былі.

Ган. Пятр. Здаровы.

Часнок. Запішэце. Ганна Пятроўна, і мяне.

Ган. Пятр. Зараз запішу. (Піша). Часнок Анісь Пятровіч.

Часнок. Ён самы, цыбульчын сваяк, хэ-хэ-хэ...

Ган. Пятр. Бядняк, серадняк ці можа кулак?

Часнок. О, хіба ня ведаеце? Ведама, серадняк, ха-ха...

Ган. Пятр. Толькі бяз жартаў.

Часнок. Кажу, серадняк. Штогод у самую сярэдзіну зімы хлеба не хапае, вось і выходзіць серадняк. (Сьмех. Маўчаньне. Ганна Пятроўна запісвае далей).

Грыцук. А гэта сястра салдата перавязвае... Але... быў і я калісь санітарам. Яшчэ ў японскую вайну. Пад Ляолянам мы стаялі. От, гэтак на гарбочку японцы...

Часнок. Дык, кажаце, трэба, поўрубля сяброўскага заплаціць?

Ган. Пятр. Але-ж. Поўрубля на гуд. Заўтра будзе ў нас першы сход ўсяго Таварыства, то можа збольшаць ці зьменшаць.

Часнок (шукае грошы). От мара, толькі залатоўка і знайшлася, га!

Ганна Пятр. Давайце пакуль што, а пасьля даплаціце. Атрымайце паквітаваньне.

Часнок. На залатоўку ды квіт? Я і так паверу.

Ганна Пятр. У грамадзкай справе на кожную капейку дакумант павінен быць.

Часнок. І то праўда. А цяпер і на малюнкі можна глянуць. Ну, Кандрат, даведаўся, што за штука Чырвоны Крыж?

Грыцук Я, браце, яшчэ за японску вайну ведаю пра Чырвоны Крыж. Як быў я санітарам...

Ганна Пятр. Мы вас і зараз зробім санітарам, от тут у нашай вёсцы.

Грыцук. Толькі я аднаго ня ўцямлю... Скажам, Чырвоны Крыж... Як быў я ў японскую вайну санітарам, дык быў там Чырвоны Крыж... Сёстры там усялякія, усё больш каля афіцэраў. Афіцэрам, брат, выгоды, а наш брат, салдат, гніў па шпіталях.

Часнок. Яно, браце, і ў нямецкую вайну так было.

Ганна Пятр. Тады былі афіцэры, а цяпер іх няма; сясьцёр такіх, што толькі гуляць ходзяць, таксама няма. Цяпер Чырвоны Крыж наш, пралетарскі, і ён усюды, а цяпер вось будзе і ў нас.

Грыцук. Ну, сказаць будзе... Я так разумею, што Чырвоны Крыж патрэбен толькі на вайне.

Ганна Пятр. І на вайне патрэбен, і сёньня патрэбен.

Грыцук. То ці-ж у нас вайна будзе, ці што?

Ган. Пятр. А хто яе ведае? Пакуль паны за мяжой, датуль ня можна сказаць, што вайны ня будзе.

Грыцук. Гэта ведама... От і ў японскую вайну... Пад Ляолянам...

Ган. Пятр. Што там японская ці нямецкая супроць той, якую цяпер рыхтуюць нам капіталістыя. Цяпер уся вайна будзе ў паветры. Што вы будзеце рабіць, як паляцяць аэрапляны, ды газы пусьцяць, а?

Грыцук. Ня ведаю гэтага, ня прабаваў.

Часнок. Ты кажы, хай лепш не дачакаць гэтага спрабаваць.

Ганна Пятр. Дзеля таго і арганізуем Камітэт Чырвонага Крыжу, каб навучыць усю вёску ратавацца ад газаў. Вось яно і выходзіць, што Чырвоны Крыж патрэбен ня толькі на фронце, а і ў нас, вось тут, бо, скажам, параняць каго, што рабіць?

Грыцук. О! Тут ужо я ведаю, што рабіць. Пад Ляолянам...

Часнок. Добра, што ты ведаеш, а я вось ня ведаю, дык можа навучуся.

Ганна Пятр. Правілова, пашлем вас разам на курсы. Ёсьць такія курсы пры Чырвоным Крыжу — „Курсы Першае дапамогі", то і адукуецеся.

Часнок (разглядае малюнкі). Вось будзем ведаць, што рабіць гэтаму, што нагу расьсек.

Ганна Пятр. То хіба толькі нагу расьсек. А апёкся чалавек, а руку зьвіхнуў. А скаціна рогам баднула, як вот Ігната Яравога, ды ўсяго і не пералічыш. Што ў такіх выпадках рабіць? Лекара няма, а самі ня ведаем.

Грыцук. Перш-на-перш кроў спыніць. Пад Ляолянам...

Ганна Пятр. Хэ, кроў спыніць. А як? Вось Чырвоны Крыж і навучыць

некалькі людзей, якія будуць сьвядомы. як памагчы ў першым няшчасным выпадку; ну, а гэта, зразумела, і пад час вайны будзе патрэбна.

Часнок. Запісвайся, Кандрат, нас з табой на фэльчароў вывучаць. Можа і пуп завязваць навучышся. Кажуць, гэта справа ня хітрая.

Ганна Пятр. (сьмяецца). Ды, ведама, не такая, як мяшок зьвязаць.



Часнок. Няўжо-ж гэта ўсё мяркуецца зрабіць за гэты поўрубель сяброўскіх?

Ганна Пятр. Ведама, не. Трэба штось такое мець, каб адтуль-бы патроху капалі капейкі.

Грыцук. Вось як стаялі мы пад Ляолянам...

Ганна Пятр. Дык вось і такую штуку мы нагледзелі; калі ўдасца—і капейкі будуць.

Часнок. Што-ж гэта за штука?

Ганна Пятр. Абяцалі нам даць, як з'арганізуемся, у арэнду млын Куцага.

Часнок. Ага, гэта справа добрая. Толькі-ж ці дадуць?

Ганна Пятр. Дадуць.

Часнок. Куцы-ж зноў падаў з Пішчыкам, каб іхняй арцелі далі.

Ганна Пятр. А хіба-ж вы ня ведаеце, якая гэтая арцель?

Часнок. І то праўда.

Ганна Пятр. Абяцалі нам даць.

## ЗЬЯВА V-ая

Хрысьця. Здаравенькія былі. Запішэце, Ганна Пятроўна, і мяне.

Часнок. Хіба і жанчынам можна? Нашто яны нам?

Хрысьця. А калі жанчына, от хіба не? Гэта-ж яно, Ганна Пятроўна, так будзе, як у Сьвінараўцы, вось так-жа...

Ганна Пятр. Так-жа сама.

Хрысьця (да Часнака). Ну! што-ж вы кажаце! У Сьвінараўцы самі жанчаны сабраліся дый залажылі, як гэта яно завецца...

Ганна Пятр. Дзіцячыя ясьлі.

Хрысьця. О, дзіўна, як проста, а запамятала. У Сьвінараўцы жанчыны не нахваляцца.

Ганна Пятр. Вось вам жніва... Трэба ў поле ісьці, а тут малое дзіцянё, якая-ж з ім праца?

Хрысьця. Ведама. Ды як яшчэ нянькі няма. Накрычыцца ў полі, насмаліцца на сонцы.

Ганна Пятр. А тут табе будзе куды аднесьці. Ідзем у поле, занясем у дзіцячыя ясьлі, а вечарам зноў возьмем: і дзіцяці добра і табе спакойна.

Хрысьця. Што казаць! Трэба ўсім жанчынам запісацца, гэта нашая справа.

Часнок (ля малюнкаў). Вось што знача дзетвара,—і малыя, і вялікія— толькі ведаюць, што есьці. Так і намалёваны каля міскі.

Ганна Пятр. Гэта-ж школяры сьнедаюць у школе. Чырвоны Крыж наладзіў ім гарачыя сьнеданьні, бо дзіцянё поўдня праводзіць у школе за сухім хлебам!

Часнок. Дый што ў каго ёсьць!

Ганна Пятр. Вось-жа-ж. А дзіцяці ў гэтыя гады трэба ежы як мага болей. Вось кожны вучань прынясе ў школу круп і інш., бульбы, а той можа і сала, а тут яшчэ наш Камітэт Чырвонага Крыжу дасьць якую капеечку, і школяр можа пасёрбаць гарачага крупніку ці гарачай бульбы з алеем. Грамадой вунь і рэвалюцыю зрабілі. Грамадой і з бядоты вылазім.

Грыцук. Ну, а ў каго дзяцей няма? Вось, скажам, я?

Ганна Пятр. Пачакайце, збагацеем, то і вам прыемнасьць зробім.

Грыцук. Якую?

Ганна Пятр. Збудуем лазьню. Будзеце хадзіць ды парыць косьці...

Часнок. Вось гэта справа! Дальбог, гэта справа!

Грыцук. А будзе? Калі?

Ганна Пятр. Давайце 500 руб.—заўтра пачынаем будаваць.

Грыцук. Вось-жа што! Давайце.

Ганна Пятр. Пакуль што пачнем сваю працу з маленькага ды неабходнага. А потым паволі, паволі, дык і разьвернемся. (За вакном гоман: „Ты вазьмі, хватайся за вяроўку, вось так").

Ганна Пятр. Што гэта? (Заглядае ў вакно).

Хрысьця. Матанькі, хтось уваліўся ў студню. (Пабеглі).

Часнок. Ці не майго ўнясло? (Пабег).

Ганна Пятр. Ужо выцягнулі.

Грыцук. Цю-цю—Сідара ўнясло. Сказаць, каб быў малы...

Ганна Пятр. Там гэткая студня, што і дарасламу небясьпечна.

Грыцук. Куды толькі глядзіць наш Савет?

Ганна Пятр. А вы куды глядзіцё? Савет колькі раз казаў—трэба направіць, трэба направіць. А вёска гамоніць— няхай яшчэ пастаіць, няхай. А грамадой там на гадзіну работы. Паглядзеце на Сьвінараўцы, — Чырвоны Крыж хіба-ж такі калодзеж зрабіў? З насосам...



Грыцук. А ў нас хаця-б зруб новы зрабілі, бо насос дужа накладна. Насос, то дужа накладна для нас. Можна абыйсьціся і без яго.

Ганна Пятр. За тое хвароба ўсялякая не разнасілася-б.

Грыцук. Як?

Ганна Пятр. А так, калі хто захварэе ў вёсцы на якую заразьлівую хваробу, п'е ваду ў сябе з вядра, тым вядром у студню лезе, і зараза ў студні. Пайшлі вы, набралі вады—і ўжо захварэлі, і так усё сяло. А як насос—гэтага ўжо ня будзе. Ды што там і казаць. Як прыгледзецца, то латак ёсьць куды латаць, абы жаданьне.

Грыцук. Яно то так, толькі-ж... Ну, ужо пішэце і мяне. Будзе лазьня?

Ганна Пя'тр. Будзе.

Грыцук. Пішэце.

Ганна Пятр. Трэ' млын-бы атрымаць з раёну, тады-б, дзядзька Сьцяпан, было-б чым казырнуць заўтра. Цяжка расчухаць нашага брата. Ня хоча зразумець, што ўсе арганізацыі на вёсцы б'юць у адзін пункт: хутчэй вылезьці з нашай бядоты. Самі-ж сабе робім. Уся-ж улада—гэта мы. Усе радасьці і сьлёзы нашыя.

### ЗЬЯВА VIII-ая

(Куцы з Пішчыкам вітаюцца)

Куцы. І... і... Глядзі, якіх цацак навешалі.

Пішчык. Ну, ну. Намалявана то пекна, а на справе як?

Ганна Пятр. А тое і ў людзей на справе так, як намалявана А вось і ў нас гэтак будзе. Ня хочам адзаду паўзьці... Як у людзей...

Куцы. Дзяцей, кажаце. Бачу, што дзетвары намалявана да чорта... Вось напладзілі, а пасьля пад плот. Ну і назьбіралі цэлую капу.

Пішчык. Ну, дык калі ўжо будзе?

Ганна Пятр. Што?

Пішчык. Ды Чырвоны Крыж.

Ганна Пятр. Заўтра сход. Прыходзьце.

Пішчык. Можна будзе і прыйсьці.

Ганна Пятр. Сябрамі і зараз запісваю.

Пішчык З гэтым мы яшчэ пасьпеем.

Куцы. Каго, кажаце, ня відаць.

Пішчык (голасна). Запрашаюць запісацца ў сябры.

Куцы. А...

Пішчык. Што-ж думаеце рабіць у гэтым Чырвоным Крыжу?

Ганна Пятр. А ўжо-ж, што патрабуецца.

Куцы. Чаго там сярдуюцца? Мы прывыклі, га! От, скажам, мяне на сходзе пазбавілі голасу, а ў гэты ваш Чырвоны Крыж прымуць. Абы грошы, а то прымуць,—ці так?

Ганна Пятр. Ну, ня так. Раз вы ня маеце права голасу, дык вас ні ў якую грамадзкую арганізацыю ня прымуць. От і Чырвоны Крыж. Нам

такіх людзей і дарма ня трэба, што толькі будуць плаціць сяброўскія ўзносы. Нам патрэбны актыўныя сябры. Вось у чым сіла кожнай арганізацыі.

Пішчык. А грошы не патрэбны? А чаму-ж раней, да вайны ў Чырвоным Крыжу былі самыя вялікія людзі?

Ганна Пятр. Як вялікія людзі?

Пішчык. Па тагачаснаму, значыць вялікія людзі... генэралы, паны, архірэі. А па гэткіх вёсках, як у нас, то і зусім ня ведалі, што яно за Чырвоны Крыж.

Ганна Пятр. Шмат чаго мы тады ня ведалі. Тады і ўлада была ня наша. А зараз улада наша, Чырвоны Крыж наш і сябрамі яго павінны быць усе, хто працуе.

Куцы. Га? Ня чуюць, кажаце. А вы крыкніце, то і пачуюць. Хэ! Гэта яны ня чуюць, як кажуць ім — „дай". А скажаце „на"—дык усе пачуюць.

Грыцук. Гэта толькі ты такі.

Куцы. Як кажаш?

Грыцук. Кажу, што толькі ты такі, што чуеш тады, як кажуць „на". У нас быў адзін такі ў палку. Прыкідаўся дурнем. Дык вось пад Ляолянам, як утварылася баталія...

Куцы. Каму што, а бабе мнякушка. Ты толькі языком умееш ляпаць.

Грыцук. То ты запамятаваў. Я яшчэ і кулаком часам умею ляпаць.

Куцы. Чаго ты прычапіўся? Чаго яму трэба? Ці цябе Чырвоным Крыжам ахрысьцілі, то і ўзбурыўся.

Грыцук. Маўчы, глухая цяцера, бо дальбог-жа...

## ЗЬЯВА IX

(Часнок)

Часнок. Вось і пошта (дае ліст К. П.) А ну, чытайце.

Куцы (да Пішчыка). Бяжы, Радзівон Сямёнавіч, бяжы, бо...

Часнок (дае ліст Куцаму). Вось і вам перадалі. Я бачыў, што вы сюды пайшлі, дый захапіў.

Куцы. Ага! (Адводзіць Пішчыка ў бок). Чытайце хутчэй.

Пішчык (чытае ціха).

Куцы. Пра млын?

Пішчык (ківае галавой).

Куцы. Ну, як?

Пішчык. Га! (паказвае хвігу) Вось...

Куцы. Вы кажэце, а ня хвігу суньце...

Пішчык. Перадаць ім (паказвае на грамаду).

Куцы. А ну, дайце сюды.

Пішчык. Вы-ж і чытаць ня ўмееце.

Куцы. Ня ўмею, ня ўмею... хоць падзіўлюся... вы ўжо ўмееце. Пісалі, пісалі... (Дражніць). Я на словах, як на арганах, цьфу.



Ганна Пятр. (радасна). Што таварышы? Ня я казала? Млын такі нам даюць. Нам! Заўтра пойдзем умову складаць.

Часнок (да Пішчыка). А што вам пішуць? У нас лісты, здаецца, аднэй масьці. (Паказвае на свой пакет).

Пішчык. Ну, што-ж—рады гаспадарцы. Можа хутка разбурыце, а тады сапраўднага гаспадара будзеце шукаць.

Куцы (не дачуў). Аддаць, аддаць. Бяз вашага бацькі бачу, што аддаць. І гэтага ня здолееў да ладу давесьці. Ужо калі ня даў бог вось тут (паказвае на лоб), то я-бы і ня браўся. Падрыпаны аблакат.

Пішчык. Во... Калі-б мая сіла. Што трэба, тое і зрабіў бы.

Куцы—Эге-ж, забіў. Яшчэ сьмяецца. Не забіў, а без нажа, разумееца, зарэзаў. Сьвіней табе пасьвіць, а не аблакатам біць. Толькі грошы ўмееш драць.

Пішчык. Не парашы, не парашы. Не забывайся, што на словах, як на арганах.

Куцы. А... цьфу! (Пайшоў).

Пішчык. Я яшчэ з цябе за абразу зьдзяру, пачакай. (Пайшоў за імі. Чутно, як яны сварацца. Сьмех).

Часнок. Свае сабакі, а пагрызьліся.

Ганна Пятр. А ну, што наш земляробскі калектыў піша? (Чытае). „Сход нашага калектыву аднагалосна

ўхваліў запісацца ўсім у Камітэт Чырвонага Крыжу".

Часнок. Грамада наша павялічваецца.

Ганна Пятр. А вось і каапэратыў наш не адстаў. (Чытае). „Праўленьне каапэратыву ўхваліла ўступіць юрыдычным сябрам Чырвонага Крыжу, асыгнаваўшы ўзнос 20 руб., ды штомесячна ў працягу школьнага году выдаваць Камітэту Чырвонага Крыжу на школьны сьнеданьні па 7 руб." (кажа). От і сродкі ёсьць на першую нашу працу. Трохі бацькі зьбяруць, трохі мы—будуць вучні мець гарачыя сьнеданьні.

Часнок. Абы заўтра добрыя людзі выбралі ў Камітэт.

Ганна Пятр. А то працы будзе. Будзе, кажаце?

Часнок
Грыцук { (радасна) Будзе, будзе!.

(Заслона)

Канец.